PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

**№ 49 (2221) Год XLIII** **Беласток 6 снежня 1998 г.** **Цана 1,20 зл.**

## *Дапамога рэдактара Гедройца*

Аляксей Мароз

**У пятніцу, 20 лістапада, дырэктар II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Яўген Сачко атрымаў ад рэдактара парыжскай „Культуры" Ежы Гедройца пісьмо і банкаўскі перавод на 15 тысяч французскіх франкаў (каля 9 тысяч зл.).**

— Калі адключылі ў нашым ліцэі электраэнергію, інфармацыя аб гэтым паявілася ў тэлебачанні і прэсе, аб чым даведаўся і рэдактар Ежы Гедройц, — расказвае дырэктар Яўген Сачко. — Падчас пазнейшай сустрэчы з міністрам адукацыі Міраславам Ганткэ, прасіў ён дапамагчы ліцэю ў пагашэнні задоўжанасці Энергетычнаму прадпрыемству, што і было прычынай адключэння току. Папрасіў адначасна нашага пісьменніка Сакрата Яновіча інфармаваць яго ці ягоны зварот у Міністэрства адукацыі даў нейкія рэзультаты. Атрымаўшы пастанову з Кураторыі, што не атрымаю ніякай дапамогі на пагашэннне задоўжанасці і атрымаўшы пісьмовую пастанову Энергетычнага прадпрыемства з Бельска-Падляшскага, што пасля 30 лістапада адбудзецца канчатковае адключэнне электраэнергіі, я паінфармаваў аб гэтым Сакрата Яновіча, аб чым даведаўся і Ежы Гедройц.

20 лістапада дырэктар Яўген Сачко атрымаў ліст ад рэдактара Ежы Гедройца, у якім інфармуе ён, што каб не дапусціць да адключэння электраэнергіі і спынення заняткаў у школе, пера-

[*працяг* ☞ **4**]

### *Musiałem pomóc*

**Dla Gazety Wyborczej**
**Jerzy Giedroyc redaktor naczelny „Kultury"**

Liceum białoruskie w Hajnówce ma różne walory, ma wysoki poziom, ale jest małe i nie daje sobie rady finansowo. W październiku bawił w Paryżu pan minister edukacji Handke, do którego zwróciłem się z prośbą o interwencję w sprawie kłopotów liceum. Obiecał pomóc i nawet zadzwonił od razu do Warszawy. Niestety, interwencja poskutkowała połowicznie. Wprawdzie odłożono terminy płatności, ale w końcu liceum dostało pismo grożące nieodwołalnie wyłączeniem energii, jeżeli zaległość nie będzie spłacona do 30 listopada. Nie miałem innego wyjścia, niż przyjść z pomocą szkole, nawet nieco demonstracyjnie, w nadziei, że to wpłynie na stanowisko administracji białostockiej, która decyduje w sprawach narodowościowych. Mam na myśli zwłaszcza stanowisko osoby sprawującej urząd wojewody, która już nie po raz pierwszy zdradza skłonność do traktowania Białorusinów w sposób dyskryminacyjny. A to niepotrzebnie psuje współżycie z mniejszością białoruską i zadrażnia stosunki polsko-białoruskie w ogóle.

**Gazeta Wyborcza nr 275. 2868 z 24.11.1998 r.**



*Злева: Ірына Радзіванюк, Людміла Данілюк, Ірына Кулік і Жанэта Роля.*

# Школьнікі павінны пісаць усе

Віталь Луба

Кожны аўтар імкнецца, каб ім напісанае з'явілася ў друку і трапіла да шырокага кола чытачоў. Цікавяць яго таксама меркаванні чытачоў і заўвагі літаратурных крытыкаў. Асабліва важны яны для пачаткоўцаў, паколькі могуць падтрымаць на духу няўпэўненых у каштоўнасці і важнасці сабою напісанага аматараў прыгожага пісьменства, даказаць, што варта займацца складаннем вершаў, развіваць свае паэтычныя схільнасці, удасканальваць літаратурнае майстэрства.



*Янка Трацяк.*

Сёлета Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, які ўжо трэці год арганізавалі Беларускі саюз і наша рэдакцыя, закончыўся семінарам, які быў прымеркаваны да выхаду з друку зборніка „Зноў чуеш словы". Адбыўся ён у Бельску-Падляшскім у днях 20-22 лістапада 1998 г. Першы дзень семінара, які пачаўся пятнічным адвячоркам, прысвечаны быў прэзентацыі зборніка і аўтараў, якіх творы былі ў ім змешчаны. Прэзентацыя адбывалася ў прысутнасці загадчыка кафедры культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта прафесара Аляксея Пяткевіча і навуковага супрацоўніка гэтай жа кафедры Янкі Трацяка, якія на другі дзень павялі практычныя заняткі з літаратарамі-аматарамі.

Заняткі праводзіліся ў дзвюх групах. Абодва выкладчыкі наперамен займаліся з паэтамі сталага ўзросту і з моладдзю (школьнікамі ды ліцэістамі). На семінары пераважала моладзь — 10 чалавек (дарослых прыехала толькі 7 асоб). Як у адной, так і ў другой групе атмасфера на занятках была ажыўленая, паміж выкладчыкамі і слухачамі наладзілася двухбаковая сувязь, вяліся цікавыя размовы.

Гродзенскія выкладчыкі пачалі заняткі з кароткага ўводнага слова агульнага плану, каб неўзабаве перайсці да разгляду твораў паасобных аўтараў. Дзяўчаты са школьнай групы падкрэслівалі, што гэта была для іх непаўторная нагода даведацца ад кампетэнтных асоб пра ўзровень сваёй паэзіі.

— Узровень творчасці маладых, пераважна дзяўчат, — кажа прафесар Аляксей Пяткевіч, — цікавы, таму што маладыя працуюць у рэчышчы паэзіі кніжна-інтэлектуальнага складу. Заўважаецца пэўны ўплыў сучаснай польскай паэзіі і польскай літаратурнай традыцыі, якая схіляецца да мадэрнізму. Гэта пошук на шляху ўнутранага самаразвіцця, унутранага самаўдасканалення, пошуку сябе — і ў жыцці, і ў літаратуры. Не ўсе з іх стануць паэтамі, але тое, што яны працуюць над словам і маюць пэўныя вынікі, вартае самай сур'ёзнай увагі. Сапраўды, у вершах можна знайсці многа вельмі цікавых дэталяў, ёсць асобныя вершы, якія можна сёння рэкамендаваць да друку. Гэта сведчанне агульнага добрага

[*працяг* ☞ **4**]

## *Патрэбная ідэалогія*

Раней дзяржаўнай ідэалогіяй Беларусі было яднанне славянскіх народаў, дзе вялікую ролю адводзілася Праваслаўнай царкве. Сёння цяжка ўявіць, як цяперашнім ідэолагам ўдасца аб'яднаць марксізм і хрысціянства, тэорыю „класавай барацьбы" і „любові бліжняга". Гісторыя XX стагоддзя паказвае, аднак, што кожная ідэалогія, створаная па загадзе нейкага кіраўніка дзяржавы ці народа, мела замацоўваць яго ўладу.

[*каментарый* ☞ **3**]

## *Грошай міністр не абяцала*

— Пабачыўшы наш Музей міністр Іаанна Внук-Назарова была захоплена ім, але ніякіх грошай на завяршэнне яго пабудовы не паабяцала, — гаворыць Ян Хіліманюк, намеснік старшыні Камітэта пабудовы Музея, які ўдзельнічаў у закрытай сустрэчы са спадарыняй міністр.

[*болей* ☞ **4**]

## *Назвалі іх „Крыніцай"*

Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі выказаў многа цёплых слоў удзячнасці калектыву „Крыніца" за прывіванне людзям любові і пашаны да беларускай культуры, песні, якая „ляціць па палях аж да маёй Радзімы і там атрымоўвае добры водгук, моцнае рэха".

[*хрысціны* ☞ **8**]

## *Восень у гданьскіх беларусаў*

Сустрэчы беларусаў, якія пражываюць у наваколлі Гданьска, пачаліся пасля летніх канікулаў у Прушчы-Гданьскім. У свой дом запрасіў Алесь Юзафовіч, які жыве тут з 1967 года. Сам ён родам з вёскі Астраўкі на Сакольшчыне.

[*дыяспара* ☞ **9**]

## *Падарожжа ў далёкую Шанталу*

Пагрузіліся мы на фурманку і разам з дзядуляй і іншымі аднавяскоўцамі адправіліся ў напрамку Вітава. У вёсцы застаўся адзіны Мікалай Сцепанюк, якога называлі турэцкім ваякам. Па дарозе мінулі апусцелыя ўжо Тапаркі і Грабавец. У Вітаве два дні прастаялі лічыўшы, што вайна абыдзе нас і мы вернемся дамоў.

[*бежанства* ☞ **10**]

# Беларусь — беларусы

## Пракуроры ўзяліся за гісторыкаў

**Пракуратура зноў абараняе „гонар і годнасць прэзідэнта Лукашэнкі". Аб'ектам даследавання пракурораў сталі матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, якая прайшла ў Мінску восем месяцаў таму.**

Падзеі развіваліся наступным чынам. 28 лютага 1998 года Беларускім Хельсінскім камітэтам і Беларускай асацыяцыяй ахвяраў палітычных рэпрэсіяў была праведзена міжнародная канферэнцыя „Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. 1917-1997 гады". У ёй прынялі ўдзел больш за 50 навукоўцаў, якія займаюцца вывучэннем гісторыі рэпрэсіяў, журналісты, юрысты, псіхолагі з 15 краінаў свету, а таксама ахвяры рэпрэсіяў.

Канферэнцыя атрымала вялікі рэзананс у грамадстве. Яшчэ да яе пачатку ў дзяржаўнай „Народнай газеце" з'явілася публікацыя гісторыка Залескага, у якой заяўлялася: *Если судить по названию конференции, то вряд ли на ней будут рассмотрены вопросы освещения преступлений против коренных интересов трудящихся. Устроители конференции попытаются обвинить в политических репрессиях государственные власти Республики Беларусь.* Акрамя таго, гісторык Залескі сцвярджаў, што рэпрэсіі былі палітычна абгрунтаваны. Пазней у той жа „Народнай газеце" была апублікавана заметка Галіны Рузавай „Кто хочет реабилитировать полицаев", у якой Хельсінскі камітэт абвінавачваўся ў прафашысцкіх дзеяннях і выказваннях.

І вось зусім нядаўна, 22 кастрычніка, адстаўныя генералы А. Баранкевіч і А. Новікаў, а таксама мастак М. Савіцкі, гісторык А. Залескі і іншыя звярнуліся да генеральнага пракурора Беларусі з лістом, у якім „просят правоохранительные органы защитить честь и достоинство президента А. Лукашенко, привлечь к уголовной ответственности авторов книги „Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі".

24 кастрычніка генеральны пракурор Алег Бажэлка заявіў на прэс-канферэнцыі, што пракуратура не ўстанавіла, хто пахаваны ў Курапатах: ахвяры камуністычных альбо фашысцкіх рэпрэсіяў. Пры гэтым ён адзначыў, што *в период с 1988-го по 1995 год расследование проводилось крайне односторонне, под сильным давлением определенных сил: проводились митинги, демонстрации, организовывались публикации в СМИ, печатались книги, не последнюю роль сыграли специалисты из Института археологии Академии наук во главе с Зеноном Пазьняком.*

2 лістапада Мінская гарадская пракуратура накіравала запыт у БХК з просьбай прыслаць на азнаямленне матэрыялы канферэнцыі.

3 лістапада кіраўніцтва Акадэміі навук пачало „разбірацца" з супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН, якія выступалі з дакладамі на той канферэнцыі.

Беларускі Хельсінскі камітэт лічыць, што пачалася дзяржаўная кампанія па рэабілітацыі самых змрочных старонак беларускай гісторыі, калі ў выніку бальшавіцкіх рэпрэсіяў былі забіты мільёны нашых суграмадзянаў. Гэта быў сапраўдны генацыд савецкай улады супраць уласнага народа.

Ад спробы замаўчаць рэпрэсіі да спробы развязаць новыя — адзін крок. Масавыя парушэнні асноўных правоў чалавека, правал эканамічнай палітыкі, нарастанне сацыяльнай напружанасці, рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця даюць спрыяльную глебу для ўвядзення жорсткага рэжыму, пошуку „ворагаў", вінаватых у народных бедах.

*Навіны, № 119, 6.11.1998 г.*

## З Беларусі не выпускаюць...

21 лістапада Міністэрствам унутраных спраў Беларусі было адмоўлена ў дазволе на выезд у ЗША журналісту Паўлу Шарамету, які збіраўся прысутнічаць на ўрачыстай цырымоніі ўручэння яму Міжнароднай прэміі свабоды прэсы. Беларускія ўлады тлумачылі гэта тым, што ў мінулым годзе ён быў асуджаны да двух гадоў умоўнага пазбаўлення волі.

23 лістапада прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША Джэймс Рубін з гэтай нагоды зрабіў заяву, на якую вельмі хутка адрэагаваў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Ва ўзнікненні канфлікту ён абвінаваціў самога Шарамета, які, па словах кіраўніка Беларусі, сам так усё падстроіў, каб зрабіць чарговую правакацыю і падвысіць сваю папулярнасць.

— Хоча, няхай едзе на здароўе, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — Хто яго тут трымае?! Ён жа ездзіў па Сібіры. Ніхто яму не перашкаджаў. (Нейкі час Павел Шарамет рабіў з Сібіры рэпартажы для расійскага тэлебачання, бо працаваць на Беларусі не меў магчымасці. — аўт.). Тут жа яшчэ бліжэй трэба ехаць, чым у Сібір!

Пасля прэзідэнт падкрэсліў, што журналіст не мае права на выезд. Але скончыў сваю прамову наступнымі словамі: „Неадкладна заўтра на самалёт адвязем і пасадзім. Няхай едзе хоць у Амерыку, хоць у Афрыку".

На той час ехаць Шарамету было ўжо позна і ўручэнне прэміі адбылося без яго.

**(зк)**

## ...і туды не пускаюць

Беларускае консульства ў Брусэлі адмовіла сябру нямецкай Партыі зялёных дэпутату Еўрапарламента Элізабет Шродтэр у атрыманні ўязной візы ў Беларусь.

Спадарыня Шродтэр збіралася ўдзельнічаць у канферэнцыі „Змены ці ізаляцыя", якая адбывалася ў Мінску 26-27 лістапада, сустрэцца з аргкамітэтам „Хартыі-97", апазіцыйнымі палітыкамі.

Фракцыя „зялёных" у Еўрапарламенце заявіла, што забарона ўезду дэпутата ў Беларусь з'яўляецца правакацыяй не толькі ў дачыненні да Еўрапарламента, які даручыў Элізабет Шродтэр падрыхтаваць справаздачу па праблеме будучых узаемаадносінаў паміж Еўрапейскім саюзам і Беларуссю, але і да ўсёй дэмакратычнай супольнасці.

26 лістапада Міністэрства замежных спраў Беларусі апамяталася і дало дазвол спадарыні Шродтэр на ўезд у Беларусь.

**(зк)**

## *Аляксандр Лукашэнка:*
## „Я ўсё бачу і ўсё кантралюю"

З 11 лістапада эканомікай Беларусі кіруе не ўрад, а Рэспубліканскі штаб пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. 19 лістапада ўпершыню ў пасяджэнні штаба прыняў удзел Аляксандр Лукашэнка.

Стварэнне штаба выклікана катастрафічнай сітуацыяй, якая склалася ў эканоміцы Беларусі. Крызіс у Расіі, на сувязь з якой была арыентавана дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі з самага пачатку яго прэзідэнцтва, прывёў да масавага збяднення насельніцтва Беларусі. Інфляцыя „з'ела" даходы людзей. Сярэдні заробак па краіне складае 30 долараў ЗША ў месяц. У Беларусі паранейшаму існуе чатыры курсы валюты.

Афіцыйны наяўны курс долара, па якому павінны працаваць абменныя пункты, складае 98 тысяч рублёў. Рэальны курс, па якім жыве краіна, вагаецца ад 180 да 200 тысяч рублёў. Таму ў абменных пунктах, як правіла, ніколі няма валюты. Долары прадаюцца і купляюцца ў нелегальных гандляроў, так званых „валютчыкаў". Гэта забаронена законам. Грамадзяне, якіх ловяць падчас абмену рублёў на долары, жорстка караюцца. Па стане на 18 лістапада, па звестках дзяржаўнага падаткавага камітэта, у парушальнікаў закона канфіскавана 260 тысяч долараў ЗША, 17,5 тысяч нямецкіх марак, сабрана штрафаў на суму 17,4 мільярдаў рублёў. Але гэта не спыняе людзей, бо купіць валюту легальна немагчыма.

Яшчэ горшая сітуацыя з безнаяўным курсам. Афіцыйна ён складае 67,5 тысяч рублёў. Па такім кошце прадпрыемствы-экспарцёры павінны прадаваць 40% усёй заробленай валюты, што робіць нявыгадным экспарт. Набыць безнаяўны долар на Міжбанкаўскай валютнай біржы можна за 350 тысяч рублёў, што робіць немагчымым легальны імпарт.

Расце запазычанасць за энергарэсурсы. Лукашэнка дамовіўся з Расіяй, што будзе плаціць за газ і нафту прадуктамі харчавання. Як вынік, у Беларусі сталі дэфіцытам: цукар, малочныя прадукты, яйкі. У крамах зноў з'явіліся велізарныя чэргі. Людзі намагаюцца паспець купіць за свае маленькія заробкі як мага больш харчавання, бо інфляцыя можа кожны дзень панізіць кошт беларускіх грошай. А цэны ў крамах не нашмат адрозніваюцца ад польскіх. Больш таннымі да гэтага часу былі толькі тавары першай неабходнасці, такія як масла, малако, смятана, цукар, яйкі, мясныя вырабы ніжэйшай якасці і... гарэлка.

Зараз усё, акрамя апошняй, знікла. Уведзеныя абмежаванні продажу тавараў аднаму пакупніку (цукар — 1 кілаграм, сметанковае масла — 300 грам, яйкі — тры дзесяткі, каўбаса — 2 кілаграмы і г.д.) сітуацыю не змянілі. Справа пачала пагражаць сацыяльным выбухам.

11 лістапада прэзідэнт стварыў штаб, які павінен „забяспечыць эканамічную стабільнасць у Рэспубліцы Беларусь". Сам Аляксандр Лукашэнка не ўвайшоў у склад членаў штаба, што гаворыць пра сур'ёзнасць сітуацыі. Раней прэзідэнт вырашаў усе справы асабіста.

— Я не хачу, па вялікім рахунку, ведаць, якімі шляхамі вы будзеце стабілізаваць у бліжэйшы час становішча на спажывецкім рынку краіны, — заявіў ён сваім падначаленым 11 лістапада. Але пакараць у выпадку, калі становішча не палепшыцца, паабяцаў строга.

Узначаліў антыкрызісную каманду кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта. У склад штаба таксама ўвайшлі: генеральны пракурор краіны, старшыня вышэйшага Гаспадарчага суда, старшыня камітэта дзяржаўнага кантролю, прэм'ер-міністр, кіраўнік галоўнага дзяржаўна-прававога Упраўлення Адміністрацыі прэзідэнта, старшыня Нацбанка, старшыня Вярхоўнага суда і дзяржаўны сакратар Савета бяспекі.

Штаб пачаў штодзённыя пасяджэнні. За тыдзень было выпрацавана некалькі рашэнняў. Але цукру ад іх больш не стала. Барацьба з дэфіцытам ператварылася ў змаганне з чэргамі ў крамах. У кожным раёне Беларусі гэта робіцца па-рознаму. Так, згодна паведамленню газеты „Навіны", у Брэсце і Гомелі дэфіцытныя тавары пачалі прадаваць толькі з 16 гадзінаў вечара. У Полацку і Наваполацку прадукты прадаюць па спецыяльных спісах, жыхары размеркаваны па крамах і купіць цукар альбо масла можна толькі паказаўшы прадаўцу пашпарт з прапіскай. У Астраўцы ўвялі прадуктовыя талоны, па якіх выдаецца па адным кілаграме цукру і 300 грамаў сметанковага масла аднаму чалавеку на месяц. А Гарадзенскі аблвыканкам прыняў рашэнне прадаваць цукар толькі па суботах. Начальнік упраўлення гандлю аблвыканкама Леанід Раманін тлумачыць аўтару гэтага артыкула тым, што ў будзённыя дні дэфіцыт разбіраюць беспрацоўныя, а рабочы чалавек нічога купіць не можа. Але і такія меры сітуацыю не палепшылі, бо як ні размяркоўвай тавар, яго колькасць ад гэтага не павялічваецца.

Нарэшце ў прэзідэнцкім штабе прыйшлі да высновы, што трэба павышаць цэны. Пачалі з гарэлкі. Вечарам 17 лістапада ўся Беларусь стаяла ў чарзе за дзвюма дазволенымі на чалавека бутэлькамі гарэлкі па кошце 95 тысяч за адну пляшку. 18 лістапада паўлітра саракаградуснай каштаваў ужо 170 тысяч рублёў.

— Як трэба ненавідзець свой народ, каб выставіць яго ў чэргі за гарэлкай, — абурыўся Аляксандр Лукашэнка 19 лістапада на пасяджэнні штаба. — Калі нават трэба было падняць кошт у два разы, няўжо нельга было гэта зрабіць у два-тры этапы. Вы што, не ўмееце гэта рабіць!?

Прэзідэнт адразу патрабаваў кампенсаваць людзям страты з разліку па адной-дзве бутэлькі на чалавека.

— Я толькі назіраў, — працягваў кіраўнік дзяржавы. — Думаў, што вы возьмеце сітуацыю ў свае рукі. Самае галоўнае — вы не бачыце ў гэтай сітуацыі чалавека, якому так дрэнна.

Прэзідэнт загадаў судам канфіскоўваць больш маёмасці, паставіць сельскую гаспадарку „на ваенныя рэйкі", навесці парадак у гандлі. Сказаў, каб штаб не быў падобным на ўрад, які, па словах Лукашэнкі, „за межамі Дома ўрада нічога не знаходзіў". Параіў папрасіць грошай у камерсантаў, якіх ці не ўпершыню назваў не „вашывымі блахамі", а „нармальнымі людзьмі". У сувязі з планаваным далейшым павышэннем цэнаў кіраўнік дзяржавы патрабаваў кампенсаваць насельніцтву выдаткі. За дзень, з якога павінна пачацца павышэнне даходаў людзей, неабходна лічыць 1 лістапада. Праўда, за кошт чаго гэта зрабіць, Аляксандр Лукашэнка не сказаў. На выкананне сваіх патрабаванняў ён даў тэрмін адзін-два тыдні.

**Зміцер Кісель**

# Патрэбная ідэалогія

Чарговае палітычнае забойства ў Расіі ўскалыхнула грамадствам Еўропы. Замардаваная Галіна Старавойтава была вядомай дзяячкай руху абаронцаў правоў чалавека яшчэ пры Савецкім Саюзе, а ў Расійскай Федэрацыі стала прыхільнікам дэмакратызацыі гэтай краіны. Не першае гэта і пэўна не апошняе забойства, дзе ахвярамі сталі людзі, якія імкнуліся высвятліць закуліссе расійскай палітыкі ці фінансаў. Пакуль што паліцыйныя службы не выкрылі віноўнікаў ніводнага такога тыпу злачынства. Зацсёды ўздымаўся шум у сродках масавай інфармацыі, пахаванні ахвяр адбываліся з удзелам першых палітыкаў краіны, а пасля ўсё сціхала.

Расійская палітыка ад часу бальшавіцкага перавароту кіруецца асаблівымі прынцыпамі, дзе афіцыйна палітыкі прытрымліваюцца традыцыйнай маральнасці, але ў рэальнасці дзейнічаюць паводле воўчага закону. Для канкурэнтаў няма там месца. У апошніх гадах звыш 60 працэнтаў маёмасці, раней дзяржаўнай, апынулася ў прыватных руках. Было б усё нармальна, калі б, напрыклад, уласнікамі стала 40-60 працэнтаў грамадства. Сталася аднак інакш — уласнікамі гэтай вялікай маёмасці сталі толькі 3 працэнты грамадзян. Такой алігархічнай сістэмы не было ніколі ў час царскага панавання. Асноўнае пытанне гэта: у які спосаб невялікая група савецкіх грамадзян захапіла такую вялікую частку агульнаграмадскага багацця? Афіцыйна ўсе атрымлівалі заработную плату, якая паводле сацыялістычных прынцыпаў мела гарантаваць сацыяльную роўнасць усіх жыхароў СССР. Таму кожны, хто імкнуўся да высвятлення хаця б невялікай часткі таямніцы цудоўнага пераўтварэння таварышаў партработнікаў у гаспадінаў капіталістаў канчаў зямную вандроўку ў падобны спосаб як Старавойтава.

Беларусь, якая ў 1994 г. уступіла на шлях яднання з Расіяй, жыве падобнымі праблемамі як і яе вялікая суседка. Палітычных забойстваў, аднак, там менш, але толькі таму, што прэзідэнцкі цэнтр улады рашуча абмежаваў, спачатку палітычную, а пасля эканамічную канкурэнцыю. Паводле неафіцыйных вестак, цяпер у турмах сядзіць каля 6 тысяч прадпрымальнікаў і толькі 6 асоб за палітычную дзейнасць. Абазначае гэта таксама, што сёння на Беларусі намнога больш небяспечнай з'яўляецца гаспадарчая актыўнасць чым палітычная. Дарэчы, пасадзіць палітыка ў турму абазначае толькі непатрэбны крык у цэлым свеце пра парушэнне правоў чалавека. Бізнесменаў можна саджаць без абмежавання, абвінавачваючы іх у парушэнні падатковых законаў, і ніхто па гэтай прычыне не будзе пратэставаць.

У палове лістапада падчас сустрэчы прэзідэнта Лукашэнкі з супрацоўнікамі Беларускай акадэміі навук даручыў ён беларускім інтэлектуалам падрыхтаванне новай „дзяржаўнай і нацыянальнай ідэалогіі". У палове лістапада ўзнікла нават „ідэалагічная вертыкаль". Камісары па справах ідэалогіі будуць цяпер дзейнічаць у школах, прадпрыемствах, раёнах, вобласцях. Выглядае на тое, што „ідэалагічная вертыкаль" мае заступіць ліквідаваныя ў 1991 г. камітэты КПСС.

Калі ідзе пра змест ідэалогіі, у гэтай галіне яшчэ не ўсё вырашана. 20 лістапада выступаў па тэлебачанні каардынатар па стварэнні дзяржаўнай ідэалогіі Яўгеній Матусевіч. Заявіў ён, што прэзідэнт загадаў стварыць ідэалогію і таму вядуцца працы над выкананнем гэтага патрабавання кіраўніка дзяржавы. Паводле Матусевіча, дрэнна сталася, што пару гадоў таму дзяржава адраклася ад марксісцкай ідэалогіі, таму што яна „сдала имущество государственного порядка". „Когда мы не сделаем идеологию белорусского государства, она прийдёт к нам с запада. Потому люди президента от нас требуют: дайте нам идеологию", — гаварыў Яўгеній Матусевіч.

Невядома, што гэта ўсё абазначае. Раней дзяржаўнай ідэалогіяй было яднанне славянскіх народаў, дзе вялікую ролю адводзілася Праваслаўнай царкве. Сёння цяжка ўявіць, як Матусевічу ўдасца аб'яднаць ідэалогію марксізму і хрысціянства, тэорыю „класавай барацьбы" і „любові бліжняга". Гісторыя XX стагоддзя паказвае, аднак, што кожная ідэалогія, створаная па загадзе нейкага кіраўніка дзяржавы ці народа, мела замацоўваць яго ўладу. Мала праўдападобнае, што гэтым разам будзе інакш.

**(ям)**

# Патрэбная стратэгія для Гайнаўкі

**Размова са старшынёю Гарадской рады ў Гайнаўцы, дырэктарам беларускага ліцэя Яўгенам САЧКО.**

***— Нядаўна сталі Вы старшынёю гайнаўскай рады. Ці паспелі ўжо пазнаёміцца з новай працай і абавязкамі?***

— Чатыры апошнія гады быў я радным і старшынёю Камісіі культуры, асветы, аховы здароўя і спорту, таму і працу Рады добра ведаю, аднак новая пасада патрабуе іншага погляду і адказнасці за працу Рады. Думаю, што першыя тыдні буду знаёміцца з абавязкамі, каб як найлепш сарганізаваць працу ў камісіях. Трэба будзе аб'явіць і правесці выбары ў рады паасобных кварталаў горада. Сустрэўся я ўжо са старшынямі гэтых рад мінулай кадэнцыі. Разлічваю на іх дапамогу ў кантактах з выбаршчыкамі, якіх заўвагі будзем аналізаваць у працы Гарадской рады, так як я абяцаў падчас выбарчай кампаніі і на першай сесіі.

***— Кожны камітэт ацэньваў рэзультаты выбарчых змаганняў. Як Вы ацанілі б выбарчыя вынікі БНВК — 7 радных?***

— 7 асоб у Радзе гэта не мала, маючы нават на ўвазе рэзультаты апошніх гадоў, калі Беларускі камітэт меў 9 радных таму, што выбары адбываліся паводле зусім іншых правілаў. Калі такі моцны клуб як АВС мае 8 радных, а СЛД — 10, дык вынік нашага Камітэта зусім добры. Мінула ўжо ад выбараў крыху часу, і бачым, што наша палітыка апраўдалася, што яна паспяховая. Хаця ў мінулым мелі мы больш радных, то не мелі ўплыву на бюджэт і змены ў горадзе. Цяпер, маючы 7 радных, маем сваіх прадстаўнікоў ва Управе, намесніка бурмістра і старшыню Рады. Не трэба таксама забываць і пра павет, дзе 5 нашых радных, а Рыгор Тамашук з'яўляецца членам Управы.

***— Вядома, што ва Управу ўвайшлі радныя ад кааліцыі СЛД і БНВК. Ці маючы 2 радных ва Управе з шасці членаў будзеце маглі рэалізаваць выбарчую праграму БНВК?***

— Кааліцыя з СЛД — праграмная кааліцыя і ёсць згода двух клубаў на рэалізацыю нашых праграм. У бліжэйшы час распрацуем стратэгію дзеяння для Гайнаўкі і вызначым найважнейшыя справы, якія трэба будзе рэалізаваць у першую чаргу. Гэтыя планы будуць выпрацоўваць радныя, а Управа будзе толькі іх рэалізаваць. Двух ці чатырох радных ва Управе не будзе мець такога вялікага значэння, як стратэгія для горада, якую прымем і будзем рэалізаваць.

***— Вы сказалі, што ў стратэгію для Гайнаўкі ўключаны будуць справы найважнейшыя для горада. З якімі прапановамі пойдуць радныя БНВК на распрацоўку стратэгіі?***

— На нашу думку, найважнейшыя справы для горада: павышэнне ўзроўню жыцця ў Гайнаўцы шляхам мадэрнізацыі водаправоднай каналізацыйнай сеткі, паляпшэнне паверхнасці дарог, утрыманне сённяшніх месц працы і пашырэнне рынку працы. На рэалізацыю гэтых прапаноў не хопіць бюджэтных сродкаў, таму трэба будзе шукаць грошай у розных фондах і старацца атрымаць датацыі. Будзем намагацца стварыць такія ўмовы, каб прыцягнуць капітал звонку. Калі будзем пракладаць водаправоды ці каналізацыю, трэба будзе весці адкрытую палітыку паводле раней прынятых крытэрыяў рэалізацыі, звязаных, напрыклад, з велічынёю сродкаў або працы, якую будуць мусілі ўнесці жыхары паасобных вуліц.

***— Пасля першай сесіі відаць, што праўдападобна АВС і „Разам" будуць апазіцыяй. Якое бачыце месца ў радзе для апазіцыі?***

— Трэба мець надзею, што апазіцыя была толькі ў час выбараў улад горада, а пазней я хацеў бы так весці працу рады, каб не было падзелу на кааліцыю і апазіцыю, бо найважнейшая справа для радных — праца для дабра горада. Радныя не павінны быць супраць разумных і добрых пастаноў, якія будуць садзейнічаць развіццю Гайнаўкі.

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Бельскія павятовыя ўлады

Першая сесія Рады Бельскага павета адбылася 6 лістапада г.г. У яе складзе пераважаюць радныя ад правых партый і арганізацый. На лік 30 радных здабылі яны 18 месц. Астатнія — гэта прадстаўнікі „Бельскай кааліцыі" (8 чалавек), у састаў якое ўваходзіў Беларускі выбарчы камітэт, і Выбарчага камітэта „Зямля Бельская" (4 асобы).

Сесію адкрыў радны-сеніёр, прадстаўнік Арлянскай гміны Мікалай Кадлубоўскі. Пасля прысягі старшынёй Рады павета была выбрана Бажэна Гратовіч — эканаміст, якая працуе ў Казначэйскай управе ў Бельску. Затым бельскім старастам радныя выбралі Марка Антонія Лукашэвіча — кіраўніка мясцовай Раённай управы, які не з'яўляецца радным, але звязаны ён з правай самаўрадавай арганізацыяй „Еднасць". Першая сесія закончылася прыняццём рэзалюцыі ў справе святкавання 80-годдзя Незалежнасці Польшчы.

Другая сесія адбылася 13 лістапада. У ходзе пасяджэння Рады былі выбраны намеснікі старшыні і старасты. Віцэ-старастам стаў Рышард Анусевіч з Браньска. У састаў Управы былі выбраны чатыры радныя: Ян Жарскі — лекар з Бельска, Генрык Грабоўскі — ваяводскі санітарны інспектар, жыхар Бельска, Марк Маліноўскі, студэнт родам з Вышак і Кшыштоф Варміяк — былы войт гміны Рудка. Намеснікамі старшыні Рады павета былі выбраны Славамір Марчук з Вышак і Станіслаў Харытон з Бельска-Падляшскага.

Трэба адзначыць, што Бельскім паветам будуць кіраваць выключна прадстаўнікі каталіцка-правых груповак.

**Міхал Мінцэвіч**

# Войт ад свята?

Едучы нядаўна ў Беласток пачуў я такую гісторыю ад жыхара Мілейчыцкай гміны (імя і прозвішча прасіў ён не выяўляць).

— Нававыбраны войт у гміннай управе з'яўляецца госцем. Працуе ўсяго два дні ў тыдні. Апошнія праводзіць у Бельску-Падляшскім на „сваім" прадпрыемстве, дзе з'яўляецца штатным працаўніком. Наш войт у самаўрадавых выбарах марыў пра пасаду старшыні гміннай рады. Выбаршчыкі інакш вырашылі. Зараз войт не ведае як паступіць, перайсці на поўны штат войта (трэба тады адмовіцца ад пасады ў Бельску-Падляшскім), ці наадварот. На маю думку гэта абсурд, каб гаспадар гміны большасць часу праводзіў па-за яе сядзібай. Трапляюцца розныя праблемы і розныя наведвальнікі. Уявіце сябе ў ролі кліента, — звяртаецца да мяне суразмоўца. — Прыехалі вы ў панядзелак да войта ў неакладнай справе, а вам заяўляюць, што войт будзе ў пятніцу. Сакратар некампетэнтны, каб рашыць вашу праблему. І ад'язджаеце з нічым. Ці можна дапусціць такую сітуацыю ў цяперашнім часе? Мне гэта проста ў галаве не змяшчаецца.

Іншая справа. Прыйшла зіма. Даўней начальнікі дбалі пра пясок для пасыпвання дарог. Зараз у Мілейчычах шыю можна скруціць. Ніводнай копкі пяску. Да чаго гэта падобнае? Як так далей пойдзе, прападзе наша гміна, а разам з ёю яе жыхары. А мо нашаму войту гэта на руку?

Тое, што я пачуў ад свайго спадарожніка пацвердзілі іншыя мае мілейчыцкія знаёмыя. Таму справу пакідаю без каментарыя. Хацелася б паставіць пытанне жыхарам Мілейчыцкай гміны: як вы думаеце ісці ў будучыню з такім важаком?

**Уладзімір Сідарук**

# Яшчэ аб чаромхаўскім войце

**Адгалоскі**

У „Ніве" № 45 ад 8 лістапада 1998 г. прачытаў я артыкул Уладзіміра Сідарука „Новая рада" і з прыемнасцю даведаўся, што войтам Чаромхаўскай гміны паўторна выбралі Міхася Врублеўскага.

Памятаю, як працаваў ён у нарваўскім ПОМе, як карыстаўся там пашанай падначаленых яму людзей. А калі стаў намеснікам дырэктара па тэхнічных справах, вылучаўся тым, што не лаяў рабочых, а толькі стараўся кожнаму параіць і дапамагчы. Шанавалі яго таксама жыхары Нарваўскай гміны, калі стаў працаваць у партыйным апараце.

Калі Міхась Врублеўскі падаў прашэнне, каб яго адпусціць на працу ў адміністрацыю ў гміне Чаромха, мне асабіста шкада было страціць такога чалавека для нашай гміны, бо выявіўся ён як добры арганізатар. Ужо дзесяць гадоў мінае, як адышоў ён з Нарвы і столькі ж гадоў працуе войтам у Чаромсе. Я асабіста зайздрошчу чарамшукам, што ў іх такі добры войт, а Міхася Врублеўскага віншую з паўторным выбарам.

**Мікалай Лук'янюк**

# Меншасці хочуць федэрацыі

За стварэнне агульнапольскай федэрацыі ўсіх нацыянальных меншасцей краіны выказаліся ўсе ўдзельнікі закончанага ў нядзелю 15 лістапада ў Пуньску Агляду калектываў нацыянальных меншасцей. Федэрацыя, на іх думку, мела б прадстаўляць інтарэсы меншасцей у большым маштабе так перад мясцовымі, як і перад заканадаўчымі ўладамі.

З ініцыятываю стварэння федэрацыі выступілі літоўцы, а падтрымалі іх прадстаўнікі другіх нацыянальнасцей. Да заснавання гэтай федэрацыі ў Пуньску не дайшло з увагі на многія разыходжанні паміж яе ініцыятарамі. Вырашана спярша апрацаваць дакладны статут, які б адпавядаў усім меншасцям. Была таксама выказана прапанова, каб арганізаваць менш меншасных мерапрыемстваў, затое ж большага маштабу — каб больш вылучаліся.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Выступалі белліцэісты

**15 лістапада г.г. гайнавяне мелі магчымасць пазнаёміцца з культурнымі дасягненнямі вучняў Гайнаўскага белліцэя. У Гайнаўскім доме культуры выступілі два музычныя школьныя калектывы: вядомая публіцы „Знічка" і новаствораны рок-гурт, яшчэ без назвы. Вучні паказаліся таксама з тэатральнымі сцэнкамі і дэкламавалі беларускія вершы і прозу.**



*Выступае калектыў „Знічка".* Фота Андрэя АНТЧАКА

Першымі на сцэну выйшлі вучні калектыву „Знічка" і заспявалі песні са сваёй касеты, якая выйшла ў верасні г.г.

— Назву калектыву, можна сказаць, прынялі выпадкова. Калі журналістка „Нівы" Ада Чачуга пісала пра нас артыкул, памылкова назвала калектыў „Знічкай", хаця ніякага названня мы тады і не мелі. Аднак гэтае слова нам вельмі спадабалася. Ад лета гэтага года стала яно афіцыйным назваеннем гурту і касеты, якую запісалі мы яшчэ ў чэрвені, хаця выйшла яна толькі восенню, — успамінае салістка Ася Масайла.

— Вельмі добра ўспамінаем працу ў студыі „Рэмбрант" Польскага радыё Беласток. Выкарысталі мы песні, з якімі выступалі ў час канцэртаў, апрацавалі некалькі новых, напрыклад тытульную „Знічку", — кажа чацвертакласніца Альжбета Трашчотка. — Праца і выступленні ў калектыве — гэта прыемнасць, таксама як выезды, сустрэчы з іншымі калектывамі. Хацелася б звязаць і будучыню з музыкай, але трэба і рэальна глядзець на жыццё.

Апрача выступленняў калектыву былі і выступленні салістак Ілоны Карпюк і Асі Масайла, якія ўжо добра вядомыя гайнаўскай публіцы, а апладысменты збіраюць не толькі за спеў, але і за сваё акцёрства на сцэне.

— Калектыў наш узнік у верасні 1995 года, калі я прыйшла працаваць у ліцэй, а дэбют быў у 1996 годзе ў час фестывалю „Беларуская песня", — успамінае настаўніца музыкі Бажэна Леўчук, апякун гурту. — Кожнага году мы былі лаўрэатамі цэнтральных элімінацый гэтага ж фестывалю, а Ася Масайла двойчы была ўзнагароджана за сольныя выступленні і таксама два разы ў дуэце з Евай Акочук. Сёлета атрымалі мы ўзнагароду Радыё Беласток, якая давала нам магчымасць запісваць касету. Спонсарам, які дапамог нам выпусціць касету, было Ляўкоўскае прадпрыемства будаўнічай керамікі. Зараз склад калектыву зноў крыху памяняўся, але гэтая з'ява характэрная ўсім школьным гуртам.

На сцэне спявала шэсць дзяўчат: Іаанна Масайла, Альжбета Трашчотка, Юстына Дудар, Ілона Карпюк, Марта Грэдаль і Кацярына Кучко, а акампаніравалі Марцін Харкевіч і Ева Лукша. Іх выступленні перапляталіся з пародыяй „Дзядоў" паводле Адама Міцкевіча, якую вучні падрыхтавалі разам са сваім апекуном Ядвігай Дамброўскай (пастаянныя наведвальнікі ГДК бачылі яе яшчэ ў час мерапрыемства, наладжанага з нагоды Дня настаўніка). Аднак найбольшае зацікаўленне выклікалі тут рэкламныя перапынкі, у час якіх ліцэісты заахвочвалі купляць розныя прадметы, пачынаючы з маргарыну „Кама" і канчаючы на шыкарных машынах.

Ева Акочук, Агнешка Галімская і Аня Садоўская дэкламавалі беларускія вершы і фрагменты прозы. Ірэна Кулік, Аня Садоўская і Міраслава Ляшчынская паказалі сцэнку паводле твора Якуба Коласа „Дуб і чароціна". Юных дэкламатараў рыхтаваў настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі.

— Прымаю ўдзел я ў розных конкурсах ужо ад другога класа падставовай школы, а ў восьмым класе была першая ў цэнтральных элімінацыях конкурсу „Роднае слова". У мінулым годзе ў конкурсе „Сцэнічнае слова" было вылучэнне за тэатральную сцэнку і індывідуальную дэкламацыю, — гаворыць другакласніца Агнешка Галімская.

Гайнавяне маглі таксама паслухаць ігры на фартэпіяна. „Польку" Ружыцкага зайгралі на чатыры рукі Кася Сапежынская і Кася Себяшук, а Марта Грэдаль твор Бетховена „Для Элізы". На заканчэнне прагучалі апрацаваныя па-свойму песні „Чом ты нэ прыйшоў" і „Ты казала..." у выкананні рок-гурту, які нядаўна паўстаў у ліцэі.

— Ёсць крыху здольнай моладзі, хаця ў гэтым годзе якраз менш прыйшло. Але і не ўсе здальнейшыя вучні хочуць хадзіць на заняткі музыкі. Цешыць, што тыя вучні, якія ў падставовай школе дадаткова не вучыліся музыкі, у нас аказаліся вельмі здольнымі.

Канцэрт, тэатральныя сцэнкі і дэкламацыі паказалі, што ёсць у белліцэі таленавітая моладзь, з якой трэба працаваць, а сама ідэя выступленняў перад гайнаўскай публікай трапная, што пацвярджалі гарачыя воплескі публікі.

**Аляксей Мароз**

# Школьнікі павінны пісаць усе

[1 ☞ працяг]

ўзроўню творчасці маладых.

Маладыя творцы прызнаваліся, што часта пішуць па-польску, а потым перакладаюць свае творы на беларускую мову. Прафесар Пяткевіч лічыць гэту з'яву заганнай, таму што для пісьменніка вельмі важнае адчуванне жывога слова, моўнага асяроддзя. Асаблёва паэт павінен адчуваць усе нюансы, тонкасці, адценні, грані слова, а калі яго акружае іншае моўнае асяроддзе, тады яму цяжка і пераклады не прыносяць карысці творчасці.

У адрозненне ад моладзі старэйшыя застаюцца ў традыцыйна-бытавым і фальклорным жанры. Вользе Анацік пісанне вершаў дае радасць. Марыя Манаховіч, апісваючы прыроду прагне выказаць свае думкі, пачуцці і пераказць іх іншым асобам. Для Анны Яканюк творчасць — гэта нацыянальная справа, падтрымка сваёй беларускай мовы, а таксама асабістае задавальненне.

Прафесара Аляксея Пяткевіча сам факт правядзення семінара і публічнага абмеркавання творчасці такой вялікай колькасці творцаў вельмі цешыць. На яго думку, такое мерапрыемства вельмі важнае не толькі, каб вучыць пачаткоўцаў літаратурнаму майстэрству, а толькі таму, што той, хто піша вершы, развівае сваю душу. І калі не ўсе маладыя стануць паэтамі, то навучацца цаніць слова, шанаваць высокія духоўныя каштоўнасці і гэта ім толькі дапаможа жыць на свеце. Прафесар заўважыў яшчэ, што самымі вялікімі мастакамі і паэтамі з'яўляюцца дзеці, таму ў школьным узросце павінны пісаць усе.



*Іаланта Кабзар, Анна Садоўская і Агнешка Галімская*

Семінару спадарожнічалі таксама іншыя культурныя мерапрыемствы. Першага вечара пад гукі гітары спяваў Дарафей Фіёнік разам з жонкай Альжбетай і сястрой Аннай. Асаблёва чароўна гучалі ў іх выкананні народныя абрадавыя песні запісаныя ў наваколлі Бельска. А ў другі вечар адбылася аўтарская сустрэча з бельскімі „белавежцамі": Надзеяй Артымовіч, Зосяй Сачко і Юрыем Баенам. Сустрэча была асаблівай таксама і таму, што прадстаўляліся на ёй новыя кніжкі Надзеі Артымовіч „Лагодны час" і Юрыя Баены „Вечар над светам". Таксама са сваім паэтычным зборнікам „Што ў сэрцы" пазнаёміў сваіх калег удзельнік семінара Уладзімір Саўчук.



*Надзея Артымовіч і Аляксей Пяткевіч.*

**Віталь Луба**

*Фота аўтара*

# Грошай міністр не абяцала

**20 лістапада міністр культуры Іаанна Внук-Назарова будучы на Беласточчыне наведала таксама і Гайнаўку. Пабывала яна ў Беларускім музеі і Саборы Святой Тройцы, дзе адбываюцца Міжнародныя фестывалі царкоўнай музыкі.**

У Беларускім музеі міністр культуры сустрэлася з Прэзідыумам Грамадскага камітэта пабудовы Музея і бурмістрам Гайнаўкі Анатолем Ахрыцюком.

— Пабачыўшы наш Музей міністр Іаанна Внук-Назарова была захоплена ім, але ніякіх грошай на завяршэнне яго пабудовы не паабяцала, — гаворыць Ян Хіліманюк, намеснік старшыні Камітэта пабудовы Музея, які ўдзельнічаў у закрытай сустрэчы са спадарыняй міністр. — Гаварыла толькі, што калі самаўрады дадуць частку грошай, будзе выступаць да міністра фінансаў з прапановай выдзеліць пэўную суму грошай з бюджэтнага рэзерву. Паколькі не ведаем, які самаўрад будзе нас курыраваць, цяжка спадзявацца на грошы, пра якія гаварыла міністр. Мы ўжо і раней выступалі да прэм'ера і міністра фінансаў з просьбай аб сродкі на завяршэнне пабудовы будынка „Ц", на які трэба яшчэ 570 тысяч зл., а да таго, каб Музей мог працаваць, трэба яшчэ 2 мільёны 600 тыс. зл. Дагэтуль наш урад выдаткаваў на пабудову 710 тыс. зл. (на новыя грошы), а мы маючы на ўвазе дапамогу з Рэспублікі Беларусь, узносы беларусаў Беласточчыны, эміграцыі і дапамогу прадпрымальнікаў выдаткавалі 2 мільёны 400 тысяч зл. (на новыя грошы). Калі аднак палічыць вартасць Музея, зараз яна намнога большая. Як дагэтуль атрымліваем адмоўныя пастановы аб фінансаванні пабудовы, але надалей будзем хадайнічаць, бо наблізілася зіма і неабходна абаграваць усе будынкі.

У Саборы міністр культуры сустрэлася з дэканам, айцом Міхаілам Негрэвічам, падтрымліваючы патрэбу арганізацыі Міжнародных фестываляў царкоўнай музыкі. **(ам-з)**

# Дапамога рэдактара Гедройца

[1 ☞ працяг]

дае з парыжскага Фонду польскай літаратуры і культуры 15 тысяч французскіх франкаў. Інфармаваў таксама, што не ведае чаму інтэрвенцыя міністра Міраслава Гантка не дайшла да ўлад Беластоцкага ваяводства.

— Гэтыя грошы канчаткова вырашаць праблему нашай задоўжанасці за электраэнергію, бо частку даўгоў сплацім са сродкаў школы, — кажа дырэктар белліцэя. — Карыстаючыся нагодай ад імя вучняў, настаўнікаў і свайго сардэчна дзякую спадару Ежы Гедройцу за грошы. Лічым, што гэта доказ сімпатыі да нашага белліцэя рэдактара, які лічыць такія ліцэі, як наш, патрэбнымі для асяроддзяў нацыянальных меншасцей.

А некалькі дзён пазней дырэктар Сачко паведаміў мне наступнае:

— Сёння, 25 лістапада, у наш ліцэй тэлефанаваў таксама Данэль Альбрыхскі. Выдатны акцёр паведаміў, што даведаўшыся пра дапамогу Ежы Гедройца, якога ён лічыць вялікім аўтарытэтам, вырашыў на яго прыкладзе таксама дапамагчы нашаму ліцэю і перадае нам 10 тысяч французскіх франкаў. Сказаў ён яшчэ, што бачыў дакументальныя фільмы пра Беласточчыну, якія зрабілі на ім вялікае ўражанне, і таму хоча ён успамагчы развіццё культуры беларускай меншасці.

**Аляксей Мароз**

# Літаратурная старонка (467)

## Райскае пяро

Малады рэдактар Аўлас Падляскі злавіў райскага птаха, іначай жар-птушку. За хвост, праўда, учапіўся толькі (газетная вутка, значыць, гэта, так ці не), але ўсё ж дзерганўў пёрка ды вырваў са зяючага хвасціска. А раней гэта толькі ўдалося казачнаму дурненькаму Іванку.

Прынёс Аўлас пяро ў рэдакцыю, схаваў у сваю шуфляду. Ды дзе ж схаваеш такое! Дык калі схаваеш, дык хочацца што і раз яго ўбачыць. Высуне Аўлас шуфляду, кіне вокам ад камп'ютэра ў ейнае нутро, і піша, піша, піша — адна толькі радасць ад такога пісання! На блакітным маніторы белыя літары ўкладваюцца ў словы, фармулюецца думка, набірае моцы кантэкст, чытачу не адарвацца будзе ад такога твора!..

Працаваў Аўлас так дзень, працаваў два... — на стале ў Галоўнага Пахнуця Дулюка паявілася грувасткая кіпа эсэ, нарысаў, артыкулаў, рэпартажаў, фельетонаў. Нават памылачка ў аддрукоўцы не паявіцца, чысценька і натхнёна пішацца Аўласу. Карэктару няма чаго правіць. Пахваліў Дулюк Аўласа на планіроўцы, ды і не толькі словам, а і ганарарам. Гонар такі! На зайздрасць шэранькім Аўласавым калегам, а найбольш карэктару Андруку Стуку, які ўвесь дзень грызе сіні аловак, аж сінеў яму язык ад тае злосці, ад браку работы. Ну дык і падглядзеў, гадзюка, што так натхняе рэдактара Аўласа.

— А Аўлас казаў, што мае вось такууу-уу-ю тэму! — пабег шапнуць на вуха Галоўнаму Стук. — Хай едзе, куляў не баіцца. Будзе сенсацыя! У найгоршым выпадку і так сярэдняя ўзросту журналіста — 54 гады, калі што трапіцца, то статыстыку замоцна не папсуе...

Скрывіўся Дулюк, што не ён знюхаў першы тэму і такі талковы матэрыял не ён напіша, засоп над сваім брухам і пазваў Аўласа: „Едзь, Аўлас, у Рэспубліку Пайднёвай Мардавіі, там само, здаецца, вайна. Падтрымай, каго трэба, прывязі адтуль мне дачку Партызанскага Караля і тэму на першую старонку".

— Аўласьне і паеду.

Аўлас паехаў, здабыў, напісаў. А дачка Партызанскага Караля не хоча Галоўнага. Ну, што ёй такі Дулюк! Як пазбыцца азызлага залётніка, хай і вілу ён мае, а пісаць сам не піша, бо забыўся.

— Накупі, Аўлас, піва за ўсю прэмію, прызнаную Асацыяцыяй хмялеўскіх журналістаў за твой геніяльны тэкст пра рэвалюцыю ў РПМ. Напаі Дулюка, хай лопне!

Хутка слова кажацца, яшчэ хутчэй справа баецца. Напіўся Пахнуць Дулюк піва вышэй вушэй, так і кокнуў.

Не будзем тут больш пра піва, бо тут вам не рэклама. Хопіць, што супрацоўнікі рэдакцыі абралі шчаслівага маладжона Аўласа Падляскага Галоўным. Ды хоць пяро райскага птаха зяяла на ўсю катушку, уваткнутае ў аздобную чарнільніцу ў выглядзе абеліска перамогі на пісьмовым стале, зусім не пісалася Аўласу.

— Аўласьне і кіну гэту пасаду! — рашыў малады рэдактар і паехаў у глыбінку набіраць натхнення.

**Міра Лукша**

## Час прыкрывае блакітам

Добры паэт не перастае здзіўляць, заварожваць. Можаш сто разоў прачытаць яго вершы, а за сто першым усё роўна ўбачыш нешта новае, цікавае. Захопішся.

Надзея Артымовіч ашчадная на словы. Піша мала, доўга, пакутна. Не дбае пра тое, будуць яе вершы надрукаваны ці не. Баіцца вядомасці, папулярнасці, бо ў жыцці нішто не даецца задарма, за ўсё трэба расплачвацца:

*паэты паміраюць тады*
*калі ўсміхаецца добры час для паперы.*

Яна верыць у моц *Першага слова малітвы* і стараецца да яго *дайсці* сваёй, нікім раней не пратаптанай сцежкай. „Але за гэтую арыгінальнасць жыццё бярэ ад яе за жыццё сваю празмерную зарплату, — пісаў Ян Чыквін пасля выхаду ў свет кніжкі „Сезон у белых пейзажах". — (...) у вершах Артымовіч (...) вылузаюцца дзе-нідзе катастрафічныя мікрасветы і штосьці для чытача яшчэ невядомае, а што ўкрываецца за неразгаданымі сімваламі: *трэцяе маўчанне, перадапошняя старонка трэцяй кніжкі, перадапошні дзень, перадапошнія колеры*" („Ніва", 3.03.1991).

Гэтае невядомае, неразгаданае, недаказанае і заварожвае, захапляе. І прымушае вяртацца да напісанага, чытаць-перачытваць. А слова, да якога з такім набажэнствам адносіцца Надзея Артымовіч, як быццам вяртаецца да яе *сном аднакрылым і лёгкім у блакітным люстры.* Люстраны адбітак пачынае жыць сваім жыццём і знаходзіць свае шляхі да чытача. У Любліне, пад рэдакцыяй украінскага паэта Тадэя Карабовіча выйшла двухмоўная беларуска-польская кніжка „Лагодны час".

Вершы ў ёй не новыя. Друкаваліся ў розных зборніках, часопісах. А ўсё роўна маюць чароўнасць навізны. Нанава паўстаюць *на небасхіле россыпы пейзажаў*, ажываюць *старой музыкай* беластоцкія вуліцы, родная зямля маўчыць *у глыбокім задуменні*, бацькоўскі *анямеў* парог. Зноў *бронзавыя хмары плывуць сцяной* і сцелюцца іржавыя цені, але гэтыя востра-балючыя вобразы здаюцца ў новай кніжцы як быццам прыцертымі, размытымі, залагоджанымі. Над імі валадарыць гаючы час і *вера ў вечнае харастово.*

Усё ж такі, з пункту гледжання чытача, прыемна, калі для паперы настае неблагі час. Або, карыстаючыся словам паэтэсы, якая высцерагаецца адназначных ацэнак — лагодны час.

**Мікола Ваўранюк**

Nadzieja Artymowicz, *Łagodny czas*, Wybór i opracowanie Tadeusz Karabowicz, Lublin 1998, ss. 114.

Міхась Андрасюк

## Вуліца Добрай Надзеі

### 2. Бежанства

Калі б першага сустрэчнага чалавека спытаць, з чаго пачынаецца дом, абавязкова пачуеце такі вось адказ: Дом пачынаецца з фундаментаў.

Не давайце веру стандартным адказам і — здавалася б — безумоўным праўдам. Не з фундаментаў пачынаецца дом. Кожны, каму давялося паставіць цэглу на цэглу, ведае, што дом пачынаецца з прыбіральні, ці — сказаўшы вельмі дакладна — з нужніка. Яма ў голым полі, як-небудзь агароджаная неабгабляванымі дошкамі, з дзіркай у форме званковай падушкі або чырвонага сэрца над дзвярыма беспамылкова вызначае месца, дзе новыя людзі рыхтуюцца на новае жыллё.

Падсілкавацца, вядома, можна абыдзе: трава, стары плед, лішняя на погляд дошка — цалкам прыстойна выпаўняюць функцыю кухоннай абстаноўкі, а дзівосная сіла натуры жоўтае сала, загорнутае ў таксама ж пажоўклую „Вспулчэсну", пераўтварае ў вэнджаныя паляндвіцы. А вось апошняя фаза страваваўльных працэсаў адбываецца ў інтымнай ізаляцыі, у цішыні, у самоце.

Цяпер ужо самі ведаеце, чаму з нужніка пачынаецца новы дом.

Летам 1980 года пачалі мы пераязджаць у горад. Невыпадкова кажу „пачалі пераязджаць". У слове „пераехалі" бачу нейкае распачатае і закончанае дзеянне. Працэс нашага бежанства быў значна даўжэйшы і куды больш складаны. Гэта толькі перасяліцца з вуліцы на вуліцу — простая справа. Загрузіць чалавек мэблю і іншыя мэтлахі, і што яму — сеў ды паехаў. У нас быў свой, пакаленнямі нажыты баласт: кароўка, кабылка і іншыя яшчэ — як потым даведаюся — двух- і чатырохногія браты. І не мужыцкая справа — адным махам разрэзваць гордзіеў вузел.

У ліпені, зараз пасля святых Пятра і Паўла прычалілі мы да берага. Бераг называўся вуліца Добрай Надзеі і значна кантраставаў з тым, што я да гэтай пары бачыў. Домікі як домікі, ды брук такі ж самы, усё-такі шпацыравалі гэтым брукам не малодшыя, чатырохногія браты, а дзякуючы неўстрымнай эвалюцыі, зусім ужо вертыкальна замацаваныя за зямную аснову браты старэйшыя — мяшчане.

Я сказаў — „шпацыравалі", бо не адразу ж зразумеў, што людзі ў горадзе не валэндаюцца туды і назад без парадку і прычыны. Яны збіраюцца ў сабе толькі зразумелы строй, у цывільны стралковы ланцуг, ды ідуць на штодзённую вайну за бохан белага хлеба, за малыя і вялікія гонары, і за прывілею адпачынку пасля васьмігадзіннай барацьбы.

Як разведка высоўваюцца радавыя слесары, сталяры, вадзіцелі. Спяшаюць трушком, каўкаючы прастранъ, быццам бы наспех глыталі сваё раніцняе снеданне. З большай саноўнасцю пасоўваецца наперад сярэдняе начальства, стараючыся магчыма найдаўжэй удастоіць вуліцу сваёй тут прысутнасцю. Шмат таго начальства: кіраўнікі, інструктары, інспектары. У падношаных партфелях валакуць адказнасць за даручаны сабе кавалак сусвету. Пра самае высокае начальства гаварыць не буду: калі б не прымаць пад увагу дырэктара Кукулку, можна сказаць, што сапраўднага начальства на нашай вуліцы і няма.

Хто яго ведае? Мо высока пастаўленыя людзі, бліжэй знаёмыя з яшчэ вышэйшай сілай, так і здагадваюцца, што адно добрая надзея — не найлепшы пропуск у будучыню, і на ўсякі выпадак інвестуюць свой капітал у іншыя вуліцы. У вуліцы, па-над якімі вартуюць слушныя якраз анёлы.

Не валэндаюцца людзі ў горадзе без парадку і прычыны. Здараецца, аднак, нельга запярэчыць, што ў наваколлі першага або дзесятага дня месяца некаторыя асобені з гарадскога роду паводзяць сябе так, быццам наведала іх гвалтоўнае жаданне вярнуцца да вытокаў. Такія індывіды дастаюць з сябе гукі падобныя на мяўканне і кваканне; бывае, што прымаюць пляската-гарызантальную выпраўку, стараючыся магчыма найшчыльней прытуліцца да ігнараванай у звычайныя дні зямелькі-матулі. У такіх выпадках прыбягаюць да іх, адзіныя тут, прадстаўнікі папярэдняй, менш дасканалай формы нашага існавання, усякія Шарыкі і Бурыкі, каб з дапамогай фізіялагічнага сакрэту назначыць нехарактэрны дадзенаму месцу прадмет.

Раней бачыў я падобныя выпадкі і на вёсцы, не мелі яны аднак ніякага дачынення да канкрэтнага дня месяца, а ішлі ўпоруч з важнейшымі рэлігійнымі святамі, часам ступалі ўслед за бычкамі і кабанчыкамі, пасняхова адпраўленымі ў бойню.

Так вось пачаў я назіраць за жыццём новага сабе асяроддзя, а бацькі курсіравалі яшчэ доўгі час між вёскай і мястэчкам, стараючыся распутаць складаныя вузлы, а ўзгаданы баласт перавезці на новае месца. Што ў натуральнай, а што ў ператворанай у грошы форме.

Першыя ўражанні, першыя назіранні, гэтак сама як і першае каханне — павярхоўныя наогул, а час бесцырымонна выварочвае ўсё дагары нагамі, і з-пад бліскучай ды фальшывай скуры паказваецца дзяружнае, шорсткае палатно. Заглыбляючыся ў вуліцу, сягаючы пад яе падшэўку, бачыш тое, што хочаш бачыць, а не тое, што табе паказваюць. І зусім нечакана даходзім да вываду, што Шарыкі і Бурыкі не адзіныя тут прадстаўнікі звярынага роду. З хлеўчыкаў наспех змайстраваных, заканспіраваных у глыбіні панадворкаў, на курашаўскім дыялекце заяўляе сваю прысутнасць сыроваткай адкормлены парсюк, вырваўшыся на свабоду певень зацягвае па-семяноўску, цвёрда, па-чаромхаўску замукае кароўка.

А на вуліцы ўсё памаленьку выгладжваецца, уніфікуецца, саветызуецца. І семяноўскае „што", і чаромхаўскае „шчо", неахвотна, хаця непазбежна ўступаюць месца агульназразумеламу „цо там, пані, слыхаць?".

*(працяг будзе)*

Марыля Базылюк

* * *

апранаюцца
ў ціш
стратаваныя маўчанні
надгробных элегій

пасадзіўшы кветкі
на магільных грудках
перамерваюцца
ўпэўненасці пачуццяў
у зарослыя памяці

убіраюцца
ў царкоўныя харалы
хвоі
на пясчаных кватэрах

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


* * *

Стаяла чыстая і нявінная
Як кропля расы
На ўзбярэжжы дарог жыцця
Адзінокая
Вецер веяў ёй у вочы...
Яна стаяла
Ведала, што не будзе ўжо так,
як тады.
Калі не была адна
Мінулае плыве як рака
Праз душу чалавека
Трапляе ў вір забыцця

**Мажэна М.**

## „Хрысціны”



*Галасістыя спевы дзяцей падабаліся публіцы.*

„Хрысціны” — шостая тэатральная пастаноўка беларуска-польскага прадшколля ў Беластоку. Прэм’ера спектакля адбылася 19 лістапада г.г. у дзіцячым садку. Тры дні пазней „Хрысціны” пабачыла шырокая публіка, якая сабралася ў Беластоцкай філармоніі на дабрачынным канцэрце. Спектакль энтузіястычна ўспрыняўся публікай. Ад самага ўваходу на сцэну выканаўцам спадарожнічалі бурныя апладысменты. Бліскучая сваю ролю сыграла Аліна Ваўранюк, якая прадставіла самую важную асобу ў хрысцінным абрадзе — бабку-павітуху. Бурныя воплескі і энтузіязм залы выклікалі наймалодшыя выканаўцы — дзеткі. Іх галасістыя спевы і смелае выступленне штораз узбуджалі смех і гучныя воплескі.

— „Хрысціны” былі найцікавейшым і найбольш жывым момантам канцэрта, — каментавалі і віншавалі пазней гледачы.

Тэатр дзейнічае ўжо чатыры гады. Яго непаўторнасць заключаецца ў шчырым замілаванні да традыцыі. Менавіта, амаль усе пастаноўкі ўзніклі на аснове аўтэнтычных народных песень і звычаяў Беласточчыны. Асаблівасць тэатра заключаецца ў спалучэнні творчай энергіі дзяцей і дарослых. Бацькі і іх дзеткі, настаўнікі ды прыхільнікі тэатра разам выступаюць на сцэне. Разам спяваюць раней завучаныя песні і прадстаўляюць абрады. Зрэшты, бывае, што бацькі (гэтыя, што нарадзіліся ў Беластоку), як і дзеці ўпершыню сустракаюцца з аўтэнтычнымі абрадамі і песнямі.

Бацькі не толькі самі фінансуюць тэатр, але і шукаюць матэрыялы для пастановак (найчасцей распытваюць сваіх бацькоў і бабуль), самі пішуць сцэнарыі, рыхтуюць сцэнічнае афармленне. Тэатр мае свайго рэжысёра, спадарыню Яўгенію Пятрышык (раней я дачушка вучылася ў садзіку). Дзейнасць і выступленні тэатра, што самае цікавае, усе ўдзельнікі лічаць добрай гульнёй і рэкламай беларускага прадшколля.

PS. Аўтары сцэнарыя „Хрысціны” (Б. Пякарская, А. Ваўранюк, Г. Кандрацюк і А. Максімюк) карысталіся песенным матэрыялам са спектакль „Хрысціны Івана Новіцкага”, які падрыхтавала тэатральная група „Аўгустова” пад кіраўніцтвам Дарафея Фіёніка. Аўтары сцэнарыя захавалі арыгінальную мову песень і іх выканаўчую манеру.

**Зорк**

*Фота Аляксандра МАКСІМЮК*



*На гармоніку іграе Андрэй Жамойда, тата дашкольніц Юліты і Касі.*



*Аліна Ваўранюк як бабка-павітуха разам з кумамі Эмількай Мусько і Алесем Мазуруко таргуюць кашай.*

## „Пятнаццаць” гадоў Сустрэч „Зоркі”*

Жнівеньскі дзень 1995 года. Прыходжу ў хату і бачу, што маці чытае нейкае пісьмо. Аказваецца, што гэта запрашэнне, накіраванае мне. Што? Дзе? Калі? У маёй галаве тысячы пытанняў. Бяру пісьмо ў рукі і чытаю. Маё знаёмства з беларускай мовай настолькі вялікае, што зразумеў я толькі подпіс рэдактара „Зоркі”. Пасля ў хату прыходзіць бацька, які найлепш з цэлай сям’і ведае беларускую мову. Чытае пісьмо і пераказвае мне яго змест. Тры дні я думаю: ехаць? не ехаць? Выбіраю гэтае першае. І так пачалася мая прыгода з „сустрэчамі „Зоркі”, якая трывае ўжо „пятнаццаць” гадоў.

Сустрэчы былі розныя: цікавыя, менш цікавыя. Аднак я заўсёды аднолькава цешыўся запрашэннем на спатканні. Розныя былі таксама месцы сустрэч: ад Белавежскай пушчы да Гданьска. Заўсёды працавалі з намі цікавыя людзі. Да іх заўсёды можна было звярнуцца з запытаннямі, просьбай, а нават пажартаваць.

Першыя Сустрэчы адбыліся ў вёсцы Меляшкі, непадалёк Гарадка. Тады пачалося размалёўванне крыжоў. Па сённяшні дзень на Беласточчыне ёсць 6 такіх крыжоў. Пасля былі тыднёвыя Сустрэчы ў Бандарах. Першы раз у гісторыі Сустрэч мы падзяліліся на групы. Падзел гэты ўтрымоўваецца на „тыднёвых” Сустрэчах і сёння. Паводле мяне гэта добра таму, што сюды прыязджаюць розныя ўдзельнікі: „акцёры”, „мастакі”, „журналісты”, а нават „паэты”. Цяжка, каб гэтыя людзі працавалі разам над адной справай.

Пятнаццатыя Сустрэчы адбыліся ў глыбі Белавежскай пушчы. Факт, што Сустрэчы былі юбілейнымі, падштурхнуў мяне да рэфлексіі. Пабачыў я, што з малодшых удзельнікаў у Меляшках прыехаў толькі я! Так ёсць і з удзельнікамі іншых Сустрэч. Яны прыязджаюць адзін-два разы, а пасля перастаюць пісаць у „Зорку” і на Сустрэчах няма па іх следу. Аднак гэта мае таксама добры бок таму, што апрача „ветэранаў” на амаль кожных Сустрэчах ёсць людзі, якія прыехалі сюды ўпершыню. Дзякуючы гэтаму — атмасфера цікавая.

Дзякуючы Сустрэчам „Зоркі” паўстала многа малюнкаў, журналісцкіх твораў ды вершаў. „Бельскі гостінэць” Краязнаўча-культурны часопіс”, які выдаецца ў бельскай „тройцы”, гэта таксама „дзіця” Сустрэч.

Думаю, што Сустрэчы „Зоркі” – гэта найцікавейшыя лагеры, экскурсіі, на якіх я быў. Таксама тут пазнаў я найцікавейшых людзей у маім жыцці. Паводле мяне, удзельнікі Сустрэч гэта адна вялікая сям’я.

**Міхась Сцепанюк**

* Сцвярджэнне, якое я пачуў раней у інтэрв’ю з удзельнікам Сустрэч, які адзначыў, што на Сустрэчах ён восьмы раз.

— Скажы, як было восем гадоў таму? — дапытваўся журналіст!

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Як паны хадзілі паганага Цмока ваяваць (2)

Пан Кубліцкі ды пан Заблоцкі нейкі час стаяць у нерашучасці, адно дзівяцца: ну ж і страхотная праява, авохці! Уссела проста на дарозе, дзе людзі паспалітыя ходзяць ды ездзяць. Але ж і заядацца з ім неяк не выпадае, усётакі разам выседжвалі з яйка, значыцца, ёсць і ў гэным стварэнні нешта панскае. Пан Кубліцкі будзе яму казаць гэтак далікатна:

— Сыдзіце, прошa пана, тут няможна!

А гэтае страшноцце на лагодныя словы й не шманае, ані. Адно чэрава пагладжвае, нячысты дух. Прыкінуўся, што на адно вока глухаваты, на адно вуха слепаваты.

Пан Заблоцкі пачынае яго ўшчуваць, згадваючы закон:

— Гэтак, як пан Цмок робіць, рабіць няможна. Нельга есці чужую рэпу ды ясных паненак, і ў статуце гэтак запісана...

На гэта Цмок лена адказвае:

— Ваш сабачы статут не для мяне, бо ў мяне іншаземны пашпарт.

Ды зноў храпе, ажно мост пад ім, гадам, трасецца.

Пан Заблоцкі, гэта ж такі гарачы. Ён жартаў не любіць. Ён натапырвае вусы, ссоўвае бровы ды рыкае грамавым голасам:

— Прэч з дарогі, галгане!!!

Але Цмока не надта выпужаеш, ён ужо пужаны. Засквярыў, засіпеў, бы гáдзіна падкалодная:

— Маўчаць, пакуль зубы тырчаць! Ды як свісне!

Пасля таго свісту ў паноў пачынаюць дробненька калаціцца калені ды цакатаць зубы. Даволі паспешна яны адступаюць за пагорак ды займаюць абаронную пазіцыю ў вербалозе. Тут яны зноў смелыя.

— На двабой, — кажа пан Заблоцкі, — хама, памаўзліўца выклікаю! Шукайма секундантаў.

— Які з гэтакім двабой? — сумняваецца пан Кубліцкі. — Ён мо й не ведае, з якога канца за зброю брацца. Зусім не шляхетная натура.

Тым часам да ракі спускаецца з вёдрамі бабка Параска. Паны крычаць, паказваюць ёй на мігах: не хадзі, бабка, бо наложыш галавою, там жа гэтая заваль ляжыць. Бабулька аднак смела набліжаецца да Цмока, а той касавурыцца на Параску, але не спяшаецца яе глытаць, не панаравіў яе, ці што.

— Авой, якое паскудства, — дзівіцца бабуля. — А вы б яму, хлопчыкі, у пысу, у пысу! Чаго ён тут разлёгся?

Паны не разумеюць.

— Ну, гэта самае, па храпачах яму, — раіць бабка Параска.

— Як гэта — па храпачах? — зноў не цямяць паны.

— А во гэтак, — паказвае бабулька. Ды пачынае каромыслам поркаць у Цмокаў карак. Паны бачаць, што бабка не баіцца, — і спяшаюцца на дапамогу, адзін з качаргою, другі з чапялой. Утрох добра такі надавалі Цмоку ў каршэнь, сапхнулі з моста. Той раве немым голасам, падскоквае да нябёсаў ды дае драла, плачучы. Ляціць у пракаветную пушчу да сваёй матулі, Куры Шчабятуры, ды пачынае ёй жаліцца на гаротную долю.

— Пакрыўдзілі цябе гэтыя здаровыя бамбізы, — суцяшае яго Кура Шчабятура. — Ну, не плач, дзіцятка. Хадзі да мамкі пад крыльца.

Паны доўга радуюцца з нагоды перамогі, вяртаюцца да свае хаціны ды ладзяць вялікі баль. На той баль запрашаюць адбароненых ад Цмока паненак дый бабку Параску таксама. Пан Кубліцкі просіць яе пайсці да іх у ахмістрыні, але бабка Параска адмаўляецца.

— А хто дзеда будзе глядзець? — кажа. — Вы ўжо выбачайце, паночкі, я загасцявалася, трэ бегчы дахаты. Баюся, каб дзед не стаў бурчаць.

Вось дык дзіва — Цмока не спужалася, а дзеда баіцца!

*(канец)*

**Пятро Васючэнка**

# Люблю сваю працу

**Інтэрв'ю з Юркам ЯКІМЮКОМ, рэдактарам гмінннай „Gazety Czyżowskiej".**

**Тамаш Дземянюк:** ***У гміне завуць Вас чалавекам ад культуры. Скажыце, чым Вы займаецеся?***

**Юрка Якімюк**: — Займаюся я культурай, апякуюся фальклорнымі калектывамі, арганізую розныя фэсты і канцэрты. Але найважнейшая мая праца — рэдагаванне „Gazety Czyżowskiej".

***— Чаму Вы пачалі выдаваць газету?***

— Некалькі гадоў таму я падумаў, што трэба і мне пакінуць для Чыжоў нейкую памятку, і што гэта павінна быць газета.

***— Як часта выходзіць газета?***

— Раз у месяц.

***— Колькі часу займае Вам падрыхтоўка аднаго нумара газеты?***

— Вельмі многа. Спачатку трэба сабраць матэрыял. Трэба праверыць усе тэксты, каб у іх не было памылак. Ну, і ў канцы трэба гэта ўсё надрукаваць.

***— Ці нехта Вам дапамагае выдаваць газету?***

— Ёсць асобы, якія пішуць артыкулы. Мне трэба праверыць гэтыя артыкулы і надрукаваць. Усё ж такі можна сказаць, што сам выдаю газету.

***— Як выглядае газета і колькі мае старонак?***

— Газета налічвае 24 старонкі, яе змест — гэта артыкулы, размовы з цікавымі людзьмі.

***— Ці газета прадаецца толькі на тэрыторыі гміны?***

— Не. Яе можна купіць і ў іншых гмінах.

***— Ці друкаваць газету гэта цяжкая праца?***

— Так, вельмі цяжкая. Перш за ўсё таму, што працую адзін.

***— Колькі гадоў Вы займаецеся газетай?***

— Выдаваннем газеты я займаюся ад 1993 года, ужо пяць гадоў. У снежні г.г. выйдзе саракавы яе нумар.

***— Ці любіце Вы сваю працу?***

— Нягледзячы на ўсе цяжкасці, вельмі люблю гэтым займацца.

## Госці

Да дзяўчынкі Веранічкі
Пазляталіся сінічкі,
Бо дзяўчынка Веранічка
Шчабятуха, як сінічка.
А да хлопчыка Рыгоркі
Пазбягаліся ваверкі,
Бо маленькі наш Рыгорка
З раніцы смяецца звонка.
Толькі да плаксівай Веры
І не грукаецца ў дзверы
Нават воўк-гуляка шэры.

**Віктар Шніп**

## Да ўнукаў

Унуку ты мой, унуку,
Хачу цябе прасіць:
Калі чытаеш „Зорку",
Ты і сам пішы.
Як табе жывецца,
Раскажы усім,
І пра родну школу,
Родны краявід,
Пра свайго дзядулю,
Як калісь ён жыў...
Гэта нам цікава
Будзе пачытаць,
Асаблівa слава
Нам — старым дзядкам.

**Мікалай Лук'янюк**

# У посце не ходзяць у госці

Піліпаўка — шасцітыднёвы, перадкалядны пост. 27 лістапада — дзень святога Піліпа. З гэтага дня аж па 6 студзеня — да Каляд — трывае Піліпаўка, званая таксама Раждзественскім постам. Посны перыяд прыпадае на самы змрочны час, калі ноч доўгая, дзень кароткі, надвор'е хмарнае і даждлівае. Прырода замірае, дрэвы стаяць маркотна без лісцяў, на палях сцелецца туман.

У Піліпаўку не елі тлустых страў. Яшчэ перад пачаткам посту з ільну рыхтавалі духмяны алей, якім увесь пост запраўлялі ежу. У жорнах малолі авёс, з якога жанчыны варылі кісель і жур. У час посту нельга было рабіць гасціны. Казалі, што ў посце не ходзяць у госці. Калі здаралася, што ў час Піліпаўкі нарадзілася каму дзіцятка, дык бацькі цярпліва чакалі Каляд, каб зрабіць хрысціны. Большасць часу людзі праводзілі ў хатах. Мужчыны рабілі цэбры, кублы, плялі лапці, кароб-кі, кошыкі, вілі вяроўкі. Жанчыны пралі лён, воўну, скубалі пер'е. Дзяўчаты вышывалі макаткі. У хатах рабілася шматлюдна, весела. Жанчыны спявалі песні (балады, рэлігійныя песні, напрыклад, пра святую Варвару, пра Самаранку). Жанчыны і дзеўкі хадзілі на г.зв. „пакудзіэль", на вячоркі. Прыносілі з сабой калаўротак і пралі. Да дзяўчат заходзілі хлопцы пажартаваць, павесяліцца.

Ужо ў свята Прасвятой Дзевы Марыі, 4 снежня, у царкве ў час багаслужэння можна пачуць радасныя спевы калядак. Ад гэтай пары жанчыны і моладзь спявалі песні Новanароджанаму Дзіцятку. Найбольш радасці прыносіла гэта дзеткам. Яны збіраліся, каб навучыцца спяваць калядкі, пры тым упрыгожвалі калядныя „гвязды".

**Барбара АНДРАЮК, вуч. VII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

# Польска-беларуская крыжаванка № 49

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ▼ | Dźwięk | Igła | Grzyb | Ruta | ▼ | Meszek |
| | Granie ► | ▼ | ▼ | ▼ | | Oka |
| | Grusza ► | | | | | ▼ |
| Haust ► | | | | | | |
| Pies ► | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 45:** Вінаград, наркотык, чэрап, віна, аснова, каса, дом, заклад, наркоз, аскома, гном, рота, правы, даклад.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Эвеліна Фіёнік**, **Давід Слюўка** і **Юліта Гайко** з Бельска-Падляшскага, **Бэата Парфянюк** з Хітрай (ПШ у Махнатым) і **Дарак Ляўчук** з Чыжык (ПШ у Новым Корніне).

Віншуем!



Талон „Зоркі" № 49
06.12.1998

# Назвалі іх „Крыніцай"




Добра падрыхтаваўся хор БГКТ у Беластоку да юбілею — 15-годдзя сваёй дзейнасці. Удасканалілі харысты стыль сваіх выступленняў, увялі многа руху, элементаў танца, бадзёрасці. Спявачкі больш тэмпераментна кружыліся, змяняліся месцамі, мілагучней разносіліся іх галасы. Урачысты юбілейны канцэрт, які адбыўся 20 лістапада г.г. у кінатэатры „Форум" у Беластоку



Пасол РБ Віктар Бурскі віншуе калектыў.

цёпла быў успрыняты публікай, сярод якой знаходзіліся прадстаўнікі арганізацый і ўстаноў, радныя і прадстаўнікі ўлад горада Беластока і ваяводства разам з віцэ-ваяводам Юзэфам Клімам. Усе выступленні калектыву ўзнагароджваліся бурнымі апладысментамі. Гэтак жа прысутныя рэагавалі на сольныя нумары нашага салаўя Алы Дубец.

Аб гісторыі калектыву і яго дзейнасці расказала вядучая канцэрт, удзельніца гэтага хору і адначасова сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Яе выказванні папоўнілі заснавальніца хору Люба Гаўрылюк, арганізацыйны яго кіраўнік Галена Арціпэўская і дырыжор калектыву Віктар Маланчык.

Нязвыклай асаблівасцю гэтага канцэрта было адчытанне вядучай Акту хрышчэння хору і прысваенне яму назвы „Крыніца". Хрышчонымі бацькамі былі Ірэна Ляўчук — член Наглядальнай рады Беластоцкай цэнтралі будаўнічых матэрыялаў і Станіслаў Гутэк — старшыня Страхавой рэасекурацыйнай кампаніі „Поліса" С.А. у Варшаве, якога прадстаўляў Ян Шчапанскі — намеснік дырэктара Беластоцкага аддзела гэтай жа кампаніі.

Старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі падзякаваў Міністэрству культуры і мастацтва РП за фінансавую ўспамогу рамонту памяшкання ГП і падтрымку сённяшняй урачыстасці. Гаварыў ён і аб тым, што культура перажывае вялікае збядненне, але яна не будзе знікаць, калі будуць такія ахвярныя людзі як члены хору „Крыніца". Затым старшыня ўручыў калектыву кветкі.

З пажаданнямі і кветкамі выйшлі на сцэну дэпутат Сейма Сяргей Плева, які пераказаў сардэчныя віншаванні ад дэпутата Уладзіміра Цімашэвіча, генеральны консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка і яго намеснік Павел Латушка, войты гмінаў Гайнаўкі і Чаромхі — Вольга Рыгаровіч і Міхал Врублеўскі, дэлегацыі калектываў: „Расспяванага Гарадка", „Васілёчкаў", „Чыжавян", хораў з Агароднічак і Козлікаў ды таксама Сцяпан Копа і Ала Дубец. Ад Беларусі юбіляраў віншавалі дастойныя госці: дырэктар Дэпартамента ўстаноў культуры Міністэрства культуры РБ Тадэуш Стружэцкі і дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага хору імя Генадзя Цітовіча Міхась Дрынеўскі.

Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі выказаў многа цёплых слоў удзячнасці калектыву „Крыніца" за прывіванне людзям любові і пашаны да беларускай культуры, песні, якая „ляціць па палях аж да маёй Радзімы і там атрымоўвае добры водгук, моцнае рэха".

З асаблівым зацікаўленнем прысутныя выслухалі і ўзнагародзілі воплескамі выступленне міністра культуры і мастацтва Польшчы Іаанны Внук-Назаровай, якая між іншым падкрэсліла неабходнасць захавання беларускай песні і вялікага багацця беларускасці і перказання ўсяго гэтага наступным пакаленням.

Пасля перапынку выступіў славуты ансамбль з Беларусі „Сябры" з Анатолем Ярмоленкам, якога рэпертуар і цудоўнае выканаўства проста зачаравала прысутных. Асабліва захапілі песні „Полька беларуская", „Гуляць дык гуляць". Вярталіся людзі дамоў пад вялікім ураженнем ад прыгажосці беларускіх песень, удзячныя артыстам за перажытыя эмоцыі, за духоўны банкет.

На канцэрце прысутнічалі таксама дырэктар па справах музеяў Міністэрства культуры РП Францішак Цэмка, прадстаўнік Міністэрства адукацыі РБ Генадзь Пяцігор і асістэнт пасла Уладзіміра Цімашэвіча Анатоль Вакулюк ды дырэктар Беластоцкага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі.

Пасля канцэрта ў памяшканні ГП БГКТ адбылася сяброўская сустрэча з харавым калектывам „Крыніца", на якой выступілі беластоцкія „Прымакі".

**Міхась Хмялеўскі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Выступае міністр культуры і мастацтва Іаанна Внук-Назарова.*

# „Сябры" ў Нараўцы

У лістападзе на Беласточчыне гасцінна выступаў папулярны на Беларусі вакальна-інструментальны ансамбль „Сябры". Гэта адзін з лепшых беларускіх эстрадных калектываў.

У суботу 21 лістапада БГКТ наладзіла канцэрт „Сяброў" у Нараўцы. Нягледзячы на 15-градусны мароз на выступленне прыйшло шмат людзей. Зала мясцовага ГОК была запоўнена аматарамі беларускай песні. Усім хацелася пабачыць зблізку вядомых па тэлебачанні спевакоў, а асабліва народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленку.

У канцэрце прагучалі песні сучасных беларускіх кампазітараў. Разам з „Сябрамі" выступіў таксама папулярны і заслужаны спявак Віктар Вуяціч. Прыгожым задушэўным голасам праспяваў Вуяціч некалькі лірычных песень.

Канцэрт, на жаль, не абышоўся без сюрпрызу. Падводзіла час ад часу гукаўзмацняльная апаратура і электрычныя гітары не маглі іграць. У час такога антракту Анатоль Ярмоленка сышоў са сцэны і разам з гледачамі спяваў папулярную песню „Вы шуміце, бярозы". Слухачам найбольш спадабаліся жартоўныя песні, такія як: „Гуляць, дык гуляць", „Полька беларуская" і „Піце піва, мужыкі!"

У канцэрце выступіла паспяхова маладзенькая салістка Алеся. Яна так цудоўна праспявала песню „Сцежачка", што лёгкі зразумелы прыпеў падпявала зала:

*Сцежачка, сцежачка,*
*Пад нагамі сцелецца,*
*Мілы вернецца назад,*
*Нікуды не дзенецца.*

Нараўчанская публіка доўга не адпускала артыстаў са сцэны, а дырэктар ГОК Андрэй Скепка ўручыў Алесі кветкі.

„Сябры" абяцалі наведаць Нараўку яшчэ раз.

**Мікалай Варанецкі**

# Удалы вечар

У днях 19-21 лістапада ў Варшаве адбыліся мерапрыемствы VII Агульнапольскага агляду мастацкіх дасягненняў нацыянальных і этнічных меншасцей. Арганізатарамі агляду былі: Асяродак культуры „Arsus", Дом культуры „Rakowiec", Цэнтр прэсы і кнігі славянскіх народаў ды Клуб культурнай адукацыі „Miś" — усе з Варшавы. Падаўся я напачатак у „Arsus", які знаходзіцца побач трактарнага завода ў Урсусе, бо там паказваліся карціны беларускага жывапісца Алега Кабзара. З'явіўся я там недзе каля 15 гадзіны ў чацвер 19 лістапада. У доме культуры было пуставата, пані ў фае, даведаўшыся чаго мне трэба, адкрыла залу з выстаўкай, пільна наглядаючы, каб я, уадзіночку, дзе там чаго... Аглянуўшы палотны, на якіх у большасці красаваліся напісаныя алеем гарадскія пейзажы, я падзякаваў пані, а яна, закрыўшы залу зноў на ключ, ветліва запрашала мяне на наступны дзень — на выступленні мастацкіх калектываў.

З Урсуса падаўся я ў Цэнтр прэсы і кнігі славянскіх народаў на аўтарскі вечар з удзелам Тэрэсы Занеўскай і Аляксандра Баршчэўскага. Дырэктар Цэнтра Ян Заброцкі паведаміў, што спадзяецца шматлікай публікі, бо пра мерапрыемствы агляду інфармавала варшаўскае тэлебачанне WOT і многія афішы размешчаныя на відных месцах рэкламных стаўбоў, што дарэчы і мне кінулася ў вочы. Першая частка вечара належала Тэрэсе Занеўскай, якая абаяльна расказвала пра беларускую літаратуру ў Польшчы. Гаварыла яна змястоўна, цікава і многа, і магла б яшчэ больш вадзіць слухачоў па Парнасе Літаб'яднання „Белавежа", калі б не адведзеныя ёй межы часу.

Узнёслы настрой падняты спадарыняй Занеўскай трымалі і яе прадаўжальнікі, якія чыталі вершы Аляксандра Баршчэўскага — Алеся Барскага. Чэслаў Сэнюх чытаў вершы паэта на беларускай мове, а напісаныя ім іх пераклады на польскую мову чытаў вядомы варшаўскі акцёр Вайцех Семян. Папрацавалі яны выдатна, бо слухачы прымалі іх выступленні з энтузіязмам, а сам аўтар вершаў, прафесар Аляксандр Баршчэўскі ўсхвалявана назваў пераклады Чэслава Сэнюха дасканалымі, а іх інтэрпрэтацыю Вайцехам Семянам — ідэальнай!

На заканчэнне Аляксандр Баршчэўскі расказваў пра сябе: пра свае творчыя прыёмы, пра свае адносіны да Літаб'яднання, пра складаную абстаноўку беларускай мовы. Былі тут і эпізоды анекдатычнага характару, і даволі сумныя рэфлексіі. Слухачы даведаліся, што неўзабаве выйдзе ў свет зборнік зачытаных на вечары вершаў Алеся Барскага ў польскім перакладзе і што на пачатку снежня адбудзецца габілітацыйны калёквіум Тэрэсы Занеўскай; лішне хіба прыгадваць чытачам, што ў яе на даследчым сталe. А слухачоў тых сабралася каля паўсотні, што Аляксандра Баршчэўскага ўзрадавала, бо паводле яго было іх многа.

Пасля гэтага абаяльнага вечара, паколькі аставалася мне каля чатырох гадзін чакання на начны цягнік у Беласток, наведаў я свайго сябра, з якім калісь супольна змагаўся з інтэграламі, файламі ды іншымі дывізіямі. Калі я згануў, што быў на беларускім вечары, ён паведаміў мне:

— A wiesz, niedawno poznałem białoruskiego przewodniczącego: profesor...

— Баршчэўскі? — пытаннем падказаў я яму.

— Tak! Bardzo sympatyczny facet!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Восень у гданьскіх беларусаў



*Журналістка Гданьскага радыё Анна Сабэцкая размаўляе з праф. Адамам Мальдзісам.*

Сустрэчы беларусаў, якія пражываюць у наваколлі Гданьска, пачаліся пасля летніх канікулаў у Прушчы-Гданьскім. У свой дом запрасіў Алесь Юзафовіч, які жыве тут з 1967 года. Сам ён родам з вёскі Астраўкі на Сакольшчыне. Пару гадоў таму пабудаваў свой дом у Прушчы-Гданьскім. Калі мы прыехалі да яго ў госці 6 верасня, у нядзелю, прывіталі нас вялізныя сланечнікі, якія Алесь садзіць з думкай пра птушак. Сушыць зярняткі і падкормлівае іх усю зіму. Была гэта нагода для летніх успамінаў і для планаў на будучыню.

**Рэйд „Залатая восень"**

Сумуючы па леце, вырашылі мы сарганізаваць рэйд „Залатая восень" 19 верасня ў суботу. Дамовіліся на прыпынку Сопат—Каменны Паток, адкуль пайшлі лесам праз яўрэйскія могілкі і Лысую Гару на вогнішча. Увесь час імжыў дождж, але настрой быў вясёлы. З усіх бакоў акружаў нас лес на марэнных узгорках. Ішлі мы раз пад горку, раз з гары, між рознаколернымі дрэвамі. Сумнае ўражанне выклікалі яўрэйскія могілкі, занядбаныя і знішчаныя. Побач іх каталіцкі і гарадскі могільнікі. Доўга разважалі мы на тых могілках пра рэлігійную талерантнасць і адносіны да некраполій іншаверцаў, асабліва евангелікаў, тут у Трыгарадзе. І добра, што хаця гэты яўрэйскі могільнік уцалеў. З Лысай Гары, якая знаходзіцца на ўзроўні Сопата і Лясной оперы, можна пабачыць мора. Зімой тут працуе канатны пад'ём для лыжнікаў і саначнікаў.

На Лясной вуліцы чакала нас вогнішча. Хаця імжыў дождж, вакол агню было суха і цёпла. Пры печаных каўбасках, бульбе і цыбулі дачакаліся мы позняга вечара. Вакол цёмны лес, а мы ўспаміналі мінулагодняе вогнішча, калі гасцілі ў сябе на летняй школе беларусістыкі студэнтаў з Варшавы, Вільні, Мінска, Гародні і Беластока. Успомнілі пакойнага Міколу Гайдука і яго белавежскія легенды. Дух пушчы выклікаў і ў нас успаміны пра жахлівыя здарэнні. Жэнік Іванюк расказаў выпадак, як некалі на гарышчы дома ягонага сябра невядома якім спосабам паяўлялася апоўдні карова. Ён сам разбіраў аднойчы шчыт гэтага дома, каб зняць карову з гарышча. Затым спявалі беларускія песні, якія нясліся па дажджлівым лесе. Адразу дамовіліся на пячэнне бульбы, на якое ўсіх нас запрасіў у Гданьск-Асовую, пад лес, Чэслаў Мекін — на 3 кастрычніка.

**„Пячэнне бульбы"**

Было даволі холадна, але вогнішча разагравала ўсіх, што сустрэліся пад Алюўскім лесам на ўчастку ў спадарства Мекіных. Аня Мекіна занялася пячэннем бульбы. Для гэтага яна збірала „залатка" з-пад шакаладаў. Памытыя бульбы (у лупінах) завівала ў станіёль і ўкідала ў жар. Так спечаная бульба чыстая, не трэба яе лупіць і можна цэлую з прыпечанай лупінкай са смакам з'есці. І зноў бясконцыя размовы, успаміны. Спадар Чэслаў успамінаў, як вяртаючыся ў верасні ад мамы з Астраўца быў затрыманы ў Гродне і „ўкінуты ў клетку". На шчасце, удалося яму даволі хутка вызваліцца падпісаўшы невядома колькі пратаколаў. Спадарства Аня і Чэслаў Мекіны прыехалі ў Польшчу ў 1967 годзе. Пані Аня расказала пра свой лёс, калі ў 1944 г. малой дзяўчынкай з маці і двума братамі выязджала ў Беларусь з Майдану, што каля Міхалова. Бацьку забілі немцы ў час вайны. У Беларусі пасялілі іх у доме рэпатрыянтаў у вёсцы Івашкаўцы. Большасць жыхароў яе была каталіцкага веравызнання. Спярша атрымалі надзел зямлі, але потым, у 1952 г. забралі яе ім пад калгас. Пані Аня закончыла гандлёвы тэхнікум. І зараз працуе ў гандлі. Прыехаўшы ў Польшчу, заўсёды траплялі на „сваіх" людзей. Уся іх сям'я засталася ў Беларусі. Сябры таксама. Адзін з іх — прафесар Адам Мальдзіс — разам з Чэславам Мекіным хадзілі ў школу ў Астраўцы.

**Адам Мальдзіс у Гданьску**

Таму, калі толькі 25 кастрычніка прыехаў ён у Гданьск, затрымаўся ў сваіх сяброў. Прафесар Адам Мальдзіс гасцяваў у Польшчы з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Спярша ў Варшаве, пасля ў Познані. У Гданьску, у Ратушы, пры вуліцы Кажэнный 33/35 25 кастрычніка прачытаў даклад на тэму: „Міцкевіч бачаны з Беларусі". Расказаў пра святкаванне юбілею ў Беларусі: афіцыйнае ў Навагрудку, канферэнцыю ў Мінску, трохмоўнае выданне „Пана Тадэуша", пераклады твораў вялікага паэта на беларускую мову, помнік Адаму Міцкевічу ў Мінску. Прафесар Мальдзіс лічыць, што А. Міцкевіч быў перад усім патрыётам Навагрудчыны і Вялікага княства Літоўскага. Умовы XIX стагоддзя зрабілі яго польскім паэтам. Аднак яго паэзія натхняла не толькі польскіх, але і беларускіх пісьменнікаў. А. Мальдзіс звярнуў увагу таксама на тое, што ўсё больш палякаў бачыць у асобе А. Міцкевіча шматкультурнасць.

На наступны дзень па запрашэнні прафесара Яна Даты з Гданьскага універсітэта і Міцкевічаўскага таварыства праф. А. Мальдзіс сустрэўся са студэнтамі і прадставіў беларускі пункт гледжання на асобу Адама Міцкевіча. Усе слухалі выказванняў А. Мальдзіса з вялікім зацікаўленнем. Многія пэўна першы раз даведаліся, што Беларусь мае нешта супольнае з вялікім паэтам.

Пры нагодзе пабыўкі ў Гданьску Адам Мальдзіс адведаў доктар Надзею Бітэль-Дабжыньскую, якая да вайны жыла ў маёнтку Лоша, каля Астраўца. Яна — аўтарка кнігі „Jak wiedźma Agrypicha znachorstwa mnie uczyła". Яе брат — Леў Дабжыньскі — быў да вайны вельмі здольным мастаком. Вучыўся ў Вільні ў Фердынанда Рушчыца. Збіраўся ехаць у Парыж. У 1937 г. закончыў жыццё самагубствам. Дзякуючы старанням Адама Мальдзіса пару гадоў таму быў яму пастаўлены помнік на радзіме.

Адам Мальдзіс сустрэўся таксама з гданьскім пісьменнікам Збігневам Жакевічам, які ў творах часта ўспамінае свае маладыя гады пад Маладзечнам. Падчас пабыўкі ў Гданьску А. Мальдзіс успамінаў часта свайго сябра Уладзіміра Караткевіча. Расказваў таксама, як пазнаёміўся з журналістам польскага тэлебачання Маркам Мальдзісам.

Толькі пасля ад'езду праф. А. Мальдзіса прыйшлося мне пакаштаваць „моцны напой" прывезены прафесарам — „Пан Тадэуш", „выраблены паводле старых шляхецкіх рэцэптураў".

**Лена Глагоўская**

# Святкаванні на Юдзянцы

**8 лістапада (26 кастрычніка паводле старога стылю) у гайнаўскім прыходзе на Юдзянцы прыхаджане адзначалі ўстанаўленне крыжа на галоўным купале будаванай царквы і парафіяльнае свята ў гонар св. Дзмітрыя Салунскага.**

Багаслужбу з удзелам гайнавян, многіх прыезджых і больш чым дваццаці свяшчэннікаў узначаліў уладыка Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы. Ордэнам св. Марыі Магдаліны II ступені з упрыгажэннямі за працу для дабра царквы ўладыка ўзнагародзіў войта Гайнаўскай гміны і старшыню Рады павета Вольгу Рыгаровіч. Такі ж ордэн прысвоены быў жыхару Беластока Васілю Піўніку, які падарыў царкве на Юдзянцы ікону. Ніна Кавальчук з Нямеччыны, ураджэнка Гайнаўкі, за фінансавую дапамогу ў пабудове царквы атрымала Ордэн св. Марыі Магдаліны III ступені. Спадарыня Кавальчук фінансуе выкананне іканастаса і купіла ўжо званы. Мітрапаліт Сава жадаў таксама плённай працы ўладам Гайнаўкі, прадстаўнікі якіх у асобе бурмістра Анатоля Ахрыцюка, яго намесніка Міраслава Морданя і старшыні Гарадской рады Яўгена Сачко прымалі ўдзел у багаслужбе.

Ужо даўней было вядома, што падчас устанаўлення крыжа на галоўным купале царквы ўсярэдзіну яго будуць пакладзены запіскі „аб здароўі блізкіх асоб", якія зачытваліся падчас літургіі, што прыцягнула на святкаванні яшчэ больш людзей.

— Вялікае задавальненне, калі бачу ўжо крыж на царкве. Памятаю, як укопваў крыж на пустой плошчы і былі сумненні, ці здолеем пабудаваць царкву, — сказаў айцец Георгій Ацкевіч, настаяцель парафіі св. Дзмітрыя Салунскага. — Хаця былі цяжкасці з рабочымі, якіх многа мянялася, былі і фінансавыя складанасці, усё мы адолелі, а завяршэннем першага этапу пабудовы стаў крыж, які вянчае ўсю працу. Царква так хутка не пабудавалася б, каб не вялікая ахвярнасць парафіян. Усё адбываецца па волі Божай, а плануем недзе праз тры гады закончыць усю пабудову і асвяціць галоўную царкву (багаслужбы цяпер адбываюцца ў ніжняй царкве). Ёсць людзі, якія прыносяць ужо ахвяры і ў верхнюю царкву. Нядаўна Сяргей і Вера Сапяжынскія ахвяравалі крыж і ікону. У бліжэйшым часе будзем пракладаць электраўстаноўку, класці тынкі, а ў лііпені прывязем першую частку іканастаса, выкананага ў дубе.

**Аляксей Мароз**

# Майскі кавалер

Міхась, сын Цыбуковага Яські, задумаў жаніцца ўжо ў 19 гадоў, а за жонку выбраў сабе Марцінаву Гапку, прыгожую дзяўчыну з суседняй вёскі, з якою сустракаўся тры гады. У Міхася былі дзве старэйшыя замужнія сястры. Адна выйшла замуж у суседнюю вёску, недалёк Гапчынай, і на сястрыным вяселлі яны пазнаёміліся. Другая сястра з мужам перабраліся ў Беласток.

Міхася не прызвалі ў армію, бо бацькі перапісалі на яго зямлю і яму трэба было даглядаць гаспадарку і бацькоў. Калі Міхась заявіў аб сваім намеры жаніцца і выявіў каго выбраў сабе за жонку, у хаце ўчыніўся лямант. Бацькі забаранілі яму нават вымаўляць імя нарачонай, а каб схіліць Міхася адмовіцца ад Гапкі, выклікалі на дапамогу абедзве дачкі з зяцямі. Уся сям'я згодна вырашыла, што яны адракуцца ад Міхася, калі той пасмее ажаніцца з Гапкай.

Міхась здаўся. Не хацеў падвяргаць непрыемнасцям сваю каханую, баяўся таксама страціць сваіх блізкіх. Так і застаўся халасцяком, майскім кавалерам, як у нас кажуць. Гапка выйшла замуж у Міхасёву вёску, мае двух сыноў і дачку, жыве шчаслівая. А Міхась кожны дзень ходзіць у краму на піва, распіўся.

Людзі гавораць, што калі б не супраціў сям'і, Міхась, мабыць, быў бы прыкладным мужам і шчаслівым чалавекам. А так з-за неразумнага рашэння сваіх блізкіх застаўся адзінокім і прабуе сваё гора ўтапіць у бутэльцы.

**Мікалай Лук'янюк**

# Гэта не быў дар

У 46 (2218) нумары „Нівы" ад 15 лістапада з'явіўся маленькі артыкульчык „Новая капліца", падпісаны крыптанімам (гай). Члены Камітэта пабудовы капліцы пры Праваслаўным прыходзе ў Кляшчэлях са здзіўленнем прачыталі, што „айцец Лявонцій Тафілюк падараваў новапабудаванаму храму ікону св. Юрыя, напісаную ў Іканапіснай школе ў Бельску-Падляшскім". Паясняем, што ікону св. Георгія камітэт заказаў, а айцец Лявонцій ікону прывёз. Але гэта не быў дар, бо мы за ікону заплацілі 1200 зл. (на гэта ў нас маецца квітанцыя).

Да гэтай пары яшчэ выконваецца іканастас і таму царква пакуль што не гатова. Бракуе нам таксама грошай. Калі ўсё будзе завершана і капліца будзе пасвячана, чытачоў „Нівы" на яе старонках дакладна паінфармуем.

**Ігнат Рошчанка**

**Ад рэдактара:** У членаў Камітэта пабудовы капліцы ў Кляшчэлях прашу прабачэння за дапушчаную нашым карэспандэнтам памылку. Маю надзею, што гэты прыкры інцыдэнт не насцярожыў будаўнікоў капліцы да такой ступені, што не захочуць бачыць нашых журналістаў у сябе. Калі будзе вядомы тэрмін пасвячэння капліцы, не забудзьце паведаміць нашу рэдакцыю. Абяцаем рэпартаж, без памылак.

**Віталь Луба**

# Падарожжа ў далёкую Шанталу

**Пра бежанства расказвае 92-гадовы Андрэй КАЛІШУК, жыхар вёскі Малліннікі Арлянскай гміны.**

— Нарадзіўся я 1 верасня 1906 года ў Маліннiках, з бацькі Антона і маці Параскевы. У сям'і быў я чацвёртым дзіцём. Старэйшымі за мяне былі два браты і сястра (пры маёй памяці доля прыкінула нам яшчэ адну сястрычку).

Бацька гаспадарыў на пасажнай „чацвяртусе" (3 га) дзядулі. Сам да таго прыкупіў тры дзесяціны і частку, што склала яму 8 гектараў зямлі. Не найлепш, аднак, жылося. Не задавальняла бацьку праца на гаспадарцы. Надумаў ён пілу для трачкі купіць, супольна з іншым аднавяскоўцам. З таго часу трачом стаў, на заробкі з прыяцелем хадзілі.

Вёска наша ў той час 67 камінаў налічвала. Як мне запамяталася, і як бацькі казалі, у агародах і пры вуліцах шмат малін расло. Буйныя і сакавітыя ягады жанчыны ў Бельск-Падляшскі насілі прадаваць. Мясцовыя купцы на кірмашы здалёк іх прыкмячалі і казалі: „Гляньце, малліннікі ідуць..." (так называлі вясковых сялян, што маліны прадавалі).

Набліжаўся 1915 год. У вёсцы пачулася гаворка пра вайну і набліжэнне немцаў. Царскія чыноўнікі загадалі пакідаць вёску і жывёлу. Свіней і авечак трэба было ў Вілюкі загнаць (там іх жыхары пазней парэзалі).

Пагрузіліся мы на фурманку і разам з дзядуляй і іншымі аднавяскоўцамі адправіліся ў напрамку Вітава. У вёсцы застаўся адзіны Мікалай Сцепанюк, якога называлі турэцкім ваякам. Па дарозе мінулі апусцелыя ўжо Тапаркі і Грабавец. У Вітаве два дні прастаялі лічыўшы, што вайна абыдзе нас і мы вернемся дамоў. Няпэўнасць чакання казала даехаць аднак да Крулёвага Мосту і спыніцца над рэчкай (назва не запаміталася). Там яшчэ тры дні адчакалі, але калі даведаліся, што немцы ўварваліся ў пушчу, рушылі мы ў глыб Расеі.

З лясных сцежак-дарожак выбраліся на шашу Варшава — Масква.

Дарогай цягнулі ўцякаючыя калоны царскага войска. Неўзабаве перамяшаліся яны з бежанцамі. Над бежанцамі паказаліся нямецкія самалёты. Пачалі скідаць бомбы і абстрэльваць дарогу. Кожны ратаваўся як мог. Пакідалі бежанцы фурманкі. Тут мы загубілі бацьку і старэйшага брата Лявона. Далейшае падарожжа матуля з намі праводзіла пешшу.

Безупынна мiналі нас вайсковыя фургоны і аўтамабілі. Маці спыніла адну падводу і папрасіла падвезці да бліжэйшай мясціны мае сёстры. Астаўся я адзін з маці. Разам з натоўпам бежанцаў кіраваліся ў напрамку Пінскіх Балотаў.

Нечакана спрыяла нам шчасце. Мы з матуляй пагрузіліся на вайсковы аўтамабіль. Праязджаючы побач чарговага абозу бежанцаў матуля раптам убачыла нашага бацьку, як магла галасна закрычала: „Антон... Антон...", але з аўтамабіля яе голасу бацька не пачуў.

Даганілі мы і фургон з сёстрамі. Было гэта непадалёк нашага прыстанішча, абоза для бежанцаў, які змяшчаўся ў бараках за Пінскімі Балотамі. Там мы аднайшлі бацьку і забралі нашы сёстры.

У час падарожжа не хапала харчоў. Па некалькі дзён мы галадалі. Час ад часу вайскоўцы давалі нам суп.

Запамяталася мне такое здарэнне. Калі мы рушылі далей у напрамку Бабруйска, бацька ехаў на фурманцы, а я бег побач дарогі карчамі. Раптам убачыў ляжачую свінню. Была вялікая і худая. Я паламаў некалькі галінак на дрэвах, робячы гэтым самым знак для месца сваёй знаходкі. Дагнаў фурманку і расказаў бацьку пра свінню. Мы спынілі падводу і пайшлі назад за свінкай. Там яе зарэзалі. Лепшае мяса забралі і з'елі.

У Бабруйску пагрузілі нас у таварныя вагоны (малліннікаўцаў аказалася два вагоны). Гэтым транспартам дабраліся на станцыю Шантала, якая стала мэтай нашага падарожжа. Нам назначылі вёску Туарун, Самарскай губерні. Мясціна аказалася даволі вялікай. Налічвала больш двухсот хатаў. Прызывалі тут чувашы, 10 кіламетраў далей знаходзіліся татары.

Памясцілі нас у самых багатых гаспадароў. Бацька наймаўся трачаваць. Маці займалася гаспадаркай у хаце. Я стаў пастухом. Два гады пас авечак, год свіней.

Браты і сястра вучыліся ў суседнім Чарамшане, я — у сваёй мясціне.

Бежанцаў, у гэтым ліку і мяне, вучыў мой дзядзька Васіль Калішук, які закончыў Дубяжынскую школу. Пазней настаўнічаў Мікалай Мікалаевіч Нікалаеў (рускі) і Цімафей Адрыянавіч (чуваш). На занятках найбольш любіў я арыфметыку.

У Туаруне мясцовыя ўлады забяспечвалі бежанцаў харчамі, якія мы атрымоўвалі па картках. Так было да рэвалюцыі. Калі яна ўзнікла, прапалі карткі, і мы вымушаны былі забяспечвацца ў ежу самі. Новыя ўлады далі нам пасведчанне, што маёмасць сваю мы пакінулі на Бацькаўшчыне і абяцалі ўсё вярнуць пасля вяртання дамоў. Ніхто пра гэта пазней і не ўспамянуў. Усё прапала.

У час рэвалюцыі наша вёска пераходзіла з рук у рукі. Як белыя ішлі ў атаку, то красныя адступалі. Іншым разам наадварот бывала.

У нашым наваколлі арганізавалася „зімовая армія" з мясцовых жыхароў. Яна выступала супраць камуністаў. Былі і такія ваякі, што замест карабіна мятлу бралі, абы толькі камуністаў „вымятаць". У 1918 годзе падшла Чырвоная Армія і разагнала бунтаўшчыкоў.

Пасля рэвалюцыі настала галадоўка. Ад мясцовых красныя забіралі жывёлу і збожжа. Рашылі мы вяртацца дамоў. Аднак без пропуска немагчыма было выехаць. Нам пашанцавала. Памог у тым знаёмы бацькі, Залускі, з Чахоў-Арлянскіх, які працаваў на чыгунцы. Меў ён магчымасць, па-знаёмству, атрымаць вагон і вярнуцца ў Польшчу. За два пуды мукі прыпісаў нас да сваёй сям'і і такім спосабам мы пакінулі Туарун.

Пасля пагрузкі загарэўся вагон, а канкрэтна — падшыпнік. Чыгуначнікі патрабавалі ад нас хлеба. „Дайце бохам хлеба, дык вагон адрамантуем і далей паедзеце, — казалі. — Калі не, будзеце стаяць..."

Мы не мелі ўжо што даваць. Тады машыніст разагнаў лакаматыў і так ўдарыў у вагон, што нас недзе на паўкіламетра адпіхнуў у чыстае поле. Аднак вагон адрамантавалі і мы паехалі далей. Спыніліся ў чыстым полі сярод нівы пшаніцы. Зерне было спелае. Набрывалі мы калосся, вылускалі зерне. „Будзем жыць!" — задаволена сказала матуля.

У Маліннікі вярнуліся ў 1921 годзе пасля шасцігадовага бадзяння па Расеі. Ішло пад восень. Частка вёскі была спалена. Хату мы засталі разбітую. Пасяліліся мы ў дзядзькавай хаце. З бежанства не вярнуўся дзядуля і малодшая сястра — там памерлі.

У 1922 годзе старэйшы брат Лявон запісаўся да беларускага гуртка, які выступаў супраць санацыйнай улады. Паліцыя арыштавала яго. У дарозе ўцёк. Хаваўся ў Маліннiках. Некалькі разоў паліцыя находзіла нашу хату і рабіла вобыск, шукаючы брата. Бацька заўсёды перахітрыў паліцыянтаў і памагаў Лявону схавацца ў пору. Пасля Лявон з сябруком з Тапаркоў выехаў на Валынь. Там і застаўся жыць.

Я наняўся парабкам у вёсцы Войны ў гаспадара Галашэўскага. Добрасумленны мужык быў. За год службы даў мне цяля, якое я сам прыгнаў у Маліннікі.

У 1933 годзе памёр бацька, а два гады пазней я ажаніўся з дзяўчынай са сваёй вёскі — Галенай. Закончыў пабудову хаты (пачынаў яшчэ з пакойным бацькам у 1933 годзе). І сам пачаў гаспадарыць на бацькаўшчыне.

Пры саветах, у 1940 годзе, арганізаваўся ў Малінніках калгас. Мяне назначылі старшынёй, але калі ў 1941 годзе немцы напалі на Савецкі Саюз, калгас разваліўся. Кожны вярнуў сабе здадзеную ў камуну маёмасць. Толькі палі засеяныя ярыной прапалі.

У апошнія дні вайны 1945 года згарэла наша хата, а ў 1947 годзе — стадола. І зноў усё прыйшлося нажываць ад пачатку. Са здароўем аднак не пашанцавала. У 1958 годзе пачаў я траціць зрок. Паехаў ў Бельск-Падляшскі да лекара Кісецкага. Спецыяліст па зроку прыпісаў мне вельмі моцнае лякарства, у выніку чаго я страціў 90 працэнтаў зроку. Зараз я зусім сляпы.

Цяпер жыву з сынам Толікам. Нявестка ў мяне добрая. І другі сын, што ў Бельску, Рыгор, значыцца, добрае дзіця. Таму спадзяюся пражыць яшчэ крышачку і пацешыцца ўнукамі. Памяць мяне не падводзіць. Дык у вольны час сядаем разам на лаўцы каля плота (як мы зараз) і расказваю пра сваё дзяцінства і нялёгкую долю.

Запісаў Уладзімір СІДАРУК

# Ошусталі нас, батынькі

Каб напоўніць сваю касу на гулянкі і распусту панская Польшча ў канцы трыццатых гадоў рашыла дзеля валюты аддаць усю Белавежскую пушчу англійскай фірме. А яна ведала як справіцца са сваёй „калоніяй" і пад пілу і тапор пайшлі найлепшыя векавыя дрэвы. Але да цяжкай работы патрэбна была танная і амаль дармовая рабочая сіла і капіталісты знайшлі яе сярод беларусаў, украінцаў, гуцулаў і лэмкаў, для якіх усе школы і ўстановы былі закрыты цяжкім замком. І дармовая сіла хлынула за гэтым англійскім „хлебам" нягледзячы ні на вялікія маразы, ні на дрэнныя вопратку і абутак; рэзалі пушчу ажно пыл курэў ад світання да позняга вечара. Мой бацька, як і многія жыхары навакольных вёсак, таксама быў на гэтых заробках. Была гэта катаржная і часта непасільная праца, але ж трэба было з чагосьці жыць і купляць самыя неабходныя для жыцця прадукты, як цукар ці соль, а ў жыда заказаць добрыя чаравікі ці боты.

Усё было дарагое. За дзень працы ў пушчы плацілі, здаецца, 3 злоты, што нашаму беднаму селяніну здавалася фартунаю, калі ў той жа час чыноўнік, настаўнік ці паліцай зараблялі па 10 злотаў. Аднак туды — у адміністрацыю, войска, паліцыю ці школьніцтва, нашым людзям дарога была закрыта. У нашых старонках гэтыя дзяржаўныя пасады займалі пілсудчыкі-легіянеры. А на працу ў пушчу прыехалі многія гуцулы з далёкай Заходняй Украіны, бо ім абяцалі залатыя горы ў нас. Але тут, у нас, убачылі, што іх папросту абманулі і яны гаварылі нашым людзям: „Ошусталі (г.зн. абманулі) нас, батынькі". Бо і сапраўды мясцовым з найбліжэйшых вёсак было намнога лягчэй і выгадней, бо мелі, хаця і малакалалрыйныя, затое ж усё-такі свае, харчы і маглі даязджаць да сваіх дамоў начаваць. А добрыя гуцулы гэтага не мелі і вымушаны былі купляць харчы і наймаць начлегі. Мой бацька расказваў, што гуцулы былі вельмі добрымі людзьмі, але жылі яны вельмі бедна і нашы людзі палюбілі іх і дзяліліся з імі апошнім, як кажуць, куском хлеба. Гэтыя шчырыя і добрыя людзі прабылі тут, здаецца, адну зіму і вярнуліся на сваю радзіму. А англійская фірма нанесла пушчы вялікі ўрон, бо ўсё найлепшае пайшло пад пілу і сякеру з мэтай узмацніць англійскі капіталізм і яго флот, што закабаліў паўсвету. Гэтая гісторыя паўтарылася, хаця не павінна...

Восенню 1939 года прыйшлі да нас саветы, якіх нашы людзі віталі з надзеяй на лепшую долю. І спачатку было выдатна, бо хто меў нейкую адукацыю той пайшоў настаўнічаць, а людзі ўпершыню пабачылі беларускі буквар і іншыя кніжкі. Другія пайшлі служыць у савецкую міліцыю, на чыгунку. Трэція паехалі ў шахты Данбаса і ўсю дарогу пілі гарэлку і то дармовую, але там, на месцы, убачылі іншы свет — жудасны. І многія „нарэзалі вінт" вяртаючыся дадому цераз агонь і пекла, і шмат загінула на гэтай „казачнай" дарозе. Пазней, калі бальшавікі сталі прыкручваць свае „гайкі", трэба было на падзелах выконваць розныя цяжкія працы, напрыклад, вывозіць драўніну з Белавежскай пушчы, да якое „вызваліцелі" прычапіліся не горш за англійскіх капіталістаў. Аднак найгоршае было яшчэ наперадзе, а былі гэта ненавісныя калгасы, за якія саветы ўжо пачыналі брацца, толькі не ўспелі, бо ўспыхнула вайна з гітлераўскай Германіяй.

Нашы людзі і немцаў віталі з надзеяй на хлеб і свабоду, аднак немцы хутка паказалі, што іх паводзіны горшыя за дзікіх звяроў. Мая сям'я — Панфілюкі — супрацоўнічала з партызанскім рухам. Калі мінула нямецкая акупацыя і вярнуліся саветы, а пасля ўсталявалася народная ўлада, многія беларусы згадзіліся выехаць на пастаяннае жыхарства ў Савецкі Саюз. Усе мае дзядзькі туды выехалі і кожны з іх *аддуўся* голадам і турмою. Адзін толькі Федзька Якімюк з Грабаўца наадрэз адказаўся ехаць і за гэта савецкі палітрук аддубасіў яго так, што тыдзень праляжаў у пасцелі, але пасля хваліўся: „Хаця дастаў лупцоўку, але астаўся дома".

Пры новай уладзе беларусы адчулі, што яны роўныя з іншымі нацыямі і таму палюбілі яе. Шчыра працавалі, а перад іхнімі дзяцьмі адкрыліся дзверы навукі і перспектывы на шчаслівае жыццё. А што нас чакае далей? Абы толькі горш не было, бо спадзявацца можна ўсяго.

Мікалай ПАНФІЛЮК

# У Орлі свая гарэлка

14 лістапада г.г. у сядзібе Кааператыва інвалідаў „Прышласць” у Бельску-Падляшскім адбылася прэзентацыя алкагольных напояў вытворчасці спіртзавода з Бельска-Бялай і суполкі „Бакарда-Марціні Польшча”. На дэгустацыі прысутнічала 50 пар гасцей, галоўным чынам бізнесменаў, уласнікаў рэстаранаў, кафэ і аптовых складоў. Адным з удзельнікаў рэкламнага мерапрыемства быў уладальнік бара і транспартнай фірмы „Трансгрот” з Орлі Юрый Шыманскі.

— У ліку прэзентаваных алкаголяў, якія выпускаюцца спіртзаводам з Бельска-Бялай, была гарэлка „Орля”, — расказвае арлянскі прадпрымальнік. — Мы з жонкай крыху спазніліся і ўвайшлі на залу ўжо ў час прэзентацыі напояў. Тады адзін з удзельнікаў мерапрыемства, канкрэтна старшыня жылёвага каператыва, заявіў усім прысутным: „Вось спадарства з Орлі, а мы акурат смакуем гарэлку «Орля». Далей павёў ён расказ пра арлянскага войта, яго схільнасці да моцных напояў і пра тое што, мабыць, у яго гонар была і выпушчана названая гарэлка.

Удзельнікі прэзентацыі сустрэліся пры шведскім стале, на якім сярод усялякага роду смакоцццяў была і беларуская страва — бульбяная кішка. Апрача дэгустацыі праводзіліся яшчэ смешныя віктарыны, а госці танцавалі пад гукі калектыву „Гамма”. Такія мерапыемствы праводзяцца рэгулярна і арганізуюць іх фірмы, якія пастаўляюць свае тавары ў харчовыя аптовыя склады.

— Уладальнікі і работнікі бараў ды рэстаранаў павінны разбірацца ў шырокім асартыменце алкагольнай прадукцыі, каб быць аўтарытэтным дарадчыкам патрабавальным або нерашучым кліентам, — кажа Юрый Шыманскі. — Напрыклад, бармен павінен ведаць і падказаць наведвальніку, што гарэлкай, ад якой не баліць галава, з'яўляецца „Карпатская”.

**Міхал Мінцэвіч**

# Дзень сеніёра

15 лістапада 1998 года ў Чаромхаўскім асяродку культуры гмінная ўправа арганізавала Дзень сеніёра. Гэтае мерапрыемства належыць да традыцыі ў Чаромхаўскай гміне.

Калі я заглянуў у залу ГОК на паўгадзіны да сустрэчы, амаль усе месцы былі заняты. Па баках залы стаялі шыкарна застаўленыя сталы. Напоі, фрукты, пячэнне, цукеркі, віно...

З'явіліся пенсіянеры са Ставішчаў, Чаромхі, Кузавы ды самай адлеглай Апакі.

— У кожнага з нас шмат клопатаў і праблем у штодзённым жыцці, — сказаў войт гміны Міхал Врублеўскі. — Зараз забудзьма пра іх. Няхай гэты дзень стане вашым днём радасці і свята. Спадзяюся, што сціплы пачастунак, а таксама аркестр і канцэрт мастацкага калектыву дазволяць забыць пра вашы турботы. Дык гуляйце і весяліцеся. Вы гэта заслужылі!

У час свайго выступлення войт Міхал Врублеўскі згадаў як гмінная ўправа рэалізуе планы і выкананне фінансавай дапамогі найбольш патрабуючым жыхарам гміны.

Напоўніліся кілішкі. Паступілі тосты. Войт зычыў паважаным сеніёрам шмат добрага здароўя і... сто гадоў жыцця.

Пасля некаторага часу дырэктар ГОК Тамара Кердалевіч аб'явіла мастацкую частку. На сцэну ўвайшоў калектыў „Магдаліна” з Кобрыня. Кожная частка праграмы пакінула ў прысутных незабыўныя ўражанні. Калі прыйшоў час на танцы, на сцэне з'явілася вясковая капэла Сямёна або, інакш кажучы, „Хлопцы з Васількова”. Пад гукі музыкі такіх музыкантаў ногі самыя скачуць і рвуцца да танца. Пенсіянеры гулялі, выкарыстоўваючы шанц незвычайнага мерапрыемства.

**Уладзімір Сідарук**

# Дзевяць залатых параў

У ЗАГСе ў Гайнаўцы дзевяць параў з горада і з Гайнаўскай гміны атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё”, прысвоеныя ім прэзідэнтам Рэспублікі Польшча. Ва ўрачыстасці прысутнічалі бурмістр Анатоль Ахрыцюк і войт Вольга Рыгаровіч. Уручылі яны медалі наступным паўвекавым шлюбным парам: Валянціне і Міхалу Бялецкім, Яніне і Лявону Ляскоўскім, Мар'і і Сцяпану Петручукам, Вользе і Яну Бяляўскім, Мар'і Сяргею Павэльчукам, Таісе і Мікалаю Антанюкам ды Юзэфе і Збігневу Яблонскім з Гайнаўкі, а таксама Мар'і і Андрэю Петручукам з Ліпін ды Веры і Васілю Кендысям з Лазіцаў.

З пажаданнямі выступіў кіраўнік гайнаўскага ЗАГСа Уладзіслаў Вітկоўскі. Ад імя ўзнагароджаных падзякаваў Лявон Ляскоўскі. Юбіляры атрымалі многа кветак і віншаванняў ад дзяцей і ўнукаў.

**(гай)**

# Спектакль „Крэсла” ў ГДК

У кастрычніку г.г. Гайнаўскі дом культуры запрашаў моладзь сярэдніх школ на заняткі ў драмгуртку „Імправізацыя”. Праводзіліся практыкаванні па міміцы і жэстах, сцэнічнай ігры ды інтэрпрэтацыі тэксту, а таксама азнаямленне з рознымі формамі тэатра і падрыхтоўка спектакля на аснове любімых твораў. 20 лістапада г.г. на сцэне ў ГДК юныя гайнаўскія драмгуртакоўцы выступілі з пастаноўкай „Крэсла”.

**(гай)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Я — беларуска, але пішу табе па-польску. Мне беларуская мова вельмі блізкая і я не хацела б яе калечыць. Спадзяюся, што ты мне даруеш.

Я належу да людзей, якія вераць у сны, але не заўсёды ўмею разгадаць. Дзевятнаццаць гадоў таму я звярнулася да цябе з просьбай прааналізаваць адзін з маіх сноў. Ты тады яго распрацаваў дакладна і беспамылкова адказаў мне, падмацоўваючы ўрыўкамі са сну. Хаця мінула шмат гадоў, я хацела б табе яшчэ раз падзякаваць за той адказ.

Адначасова я хачу ізноў звярнуцца да цябе з просьбай адказаць на мой сон. Я — удава, ужо дзевяць гадоў адна выхоўваю дзяцей. Я працую і вяду спакойнае жыццё.

А вось і мой сон. Быццам бягу я па вузкай сцежцы пасярод ракі. Бягу, таму што гоняць мяне зладзеі, якія хочуць украсці ў мяне грошы. Я іх вельмі баюся і маланкава шукаю ў думках ратунку.

Уцякаючы ад тых зладзеяў, я прабягаю каля знаёмага чалавека, які малой шуфелькай капае яму. Зямля, якую ён выкідае, жаўтаватага колеру. Я клічу яго па імені, прашу дапамогі. Знаёмы прытвараецца, што не чуе мяне. Думкі мільгаюць у галаве, я разумею, што ў даны момант магу разлічваць толькі на сябе.

Бягу я далей, усё ўздоўж тае ракі, дабягаю да нейкага металічнага маста. Уваходжу пад мост і на праслах, трымаючыся рукамі так, каб не замачыцца, дабіраюся на другі бераг ракі.

Тут страх і ўнутранае напружанне мінаюць. Я ўжо паспакайнела: ведаю, што ніякія зладзеі мне ўжо не пагражаюць. Я іду назад з другога боку ракі, ды толькі ўжо гэта не рака, а чыгунка, уздоўж якой ёсць шырокая дарога, а я па ёй іду і ўсюды зелена.

Спакойна дайшла я да чыгуначнага пераезду (мне здаецца, што менавіта тут я пачала ўцякаць ад зладзеяў). Раптам заўважаю траіх мужчын, бегучых у мой бок. І ў той жа момант да пераезду пад'язджае цягнік. Сітуацыя робіцца драматычнай. Тыя мужчыны хочуць перабегчы пуці, а цягнік набліжаецца з маланкавай хуткасцю. Я ўся дрыжу: Божа, няхай бы яны не перабягалі тае чыгункі! Але мужчыны прымаюць рашэнне перабегчы ў мой бок. Двое з іх перабеглі, а трэці застаўся за чыгункай. Сярод тых мужчын, якія ўжо стаяць побач са мною, ёсць той чалавек, які капаў шуфелькай яму і не хацеў мяне бараніць. Я здзіўлена: адкуль жа ён тут узяўся?! У руках ён трымаў нейлонавы пакет, які выпусціў з рук, перабягаючы чыгунку. Там у яго былі яблыкі, якія, як мне здавалася, ён хацеў падараваць мне. Пакет лопнуў, я пачынаю збіраць яблыкі (яны спелыя, але не надта свежыя). Праязджае цягнік, а з вагонаў праз вокны спаглядаюць дзіцячыя твары. Дзеці махаюць мне рукамі.

І тут я прачнулася, але гэты сон не дае мне спакою.

**Галіна з Гайнаўкі**

Галіна з Гайнаўкі! Твой вялікі і неспакойны сон вельмі цікавы. Аднак жа і не занадта ружовы ён. Ты ўцякала ад зладзеяў, якія гналі цябе, а гэта значыла б, што ў тваім жыцці ёсць нейкая варожасць, пагражае табе небяспека, страта. Гэта ж пацвярджае і тая яма, якую капаў твой знаёмы, і пад'язджаючы цягнік.

Таксама і мост, па якім ты неяк перапезла на другі бок ракі, гаворыць пра цяжкасці і перашкоды, якія стануць на тваёй жыццёвай дарозе.

Аднак жа табе ўдалося перапраўіцца на другі бераг, а гэта абазначала б дасягненне намечанай мэты. І, бачыш сама, што на другім беразе ракі ты цалкам супакоілася і, вяртаючыся назад, ты ўжо ішла па шырокай дарозе ўздоўж чыгункі, а навокал было зелена. Шырокая, роўная і прыгожая дарога прадвяшчае поспех (вузкая і брудная дарога — беднасць і цяжкое жыццё). Тым больш, што і чыгунка гаворыць пра нейкае выгаднае падарожжа. А яшчэ ж навокал было зелена, што абазначае добрую надзею...

Аднак жа без клопатаў ніяк не абыдзецца (яблыкі могуць сведчыць пра нейкую сварку, цягнік, чалавек, што капаў яму і не дапамог табе — хаця цяпер хацеў падараваць табе яблыкі...).

У суме — ёсць надзея, што ўсе твае праблемы абернуцца на добрае.

**Твой Астрон**

# Абраннік п'яніц

Мінае ўжо другі месяц ад самаўрадавых выбараў, але ў мясцовасці Н. усе яшчэ жывуць імі. Людзі кажуць, што радны Міраслаў М. у дзень выбараў ставіў п'яніцам піва, віно і гарэлку ды вазіў іх на сваёй машыне на выбарчы ўчастак. Патрачаныя ім грошы і час далі вынік — стаў ён дэпутатам мясцовай гміннай рады. Не спаў у шапку і другі кандыдат — Мітрафан М. Ён таксама пайшоў па слядах свайго суперніка і таксама агітаваў за сваю асобу ды вазіў выбаршчыкаў на сваёй машыне.

Цяпер у Н. два свае радныя, якія купілі сабе выбаршчыкаў. Цікава, ці яны стрымаюць дадзеныя ім абяцанні і зробяць нешта карыснае для свайго асяроддзя.

**Лукаш Мікалаюк**

# Патрэбная новая кніжка

Неўзабаве будзем жыць у новым Падляшскім ваяводстве, у якое апрача Беластоцчыны ўвойдуць Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы. Да гэтага часу фірма Тэлекамунікацыя Польска С.А. павінна выдаць новую тэлефонную кніжку, бо да гэтай пары ў згаданых ваяводствах абавязвалі тры розныя кніжкі. Многае змяняецца таксама і на вёсках. У нас ужо памянялі тэлефоны з ручкай на сучасныя апараты і ў сувязі з гэты памяняліся адназначныя нумары на сямізначныя.

Новая тэлефонная кніжка становіцца проста неабходнасцю, бо нават у самой Нарве і ваколіцы цяжка разабрацца ў новых нумарах.

**Мікалай Лук'янюк**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраноўіч.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Кароткі курс параноі

**Рэквіем Леаніду**

Было ў Рыме. Каб паказаць сенатарам, што яны нічога не значаць, тыран Калігула даў сенатарскае званне свайму каню і прыводзіў яго на пасяджэнні сената.

Быў час, былі тыраны! Наш тыран не мае нават задрыпанай казы. Пакалігуліў на ніўскім палетку і без дай прычыны акапаўся на *Белавежскайградзе*. Каб паказаць, што мае нас у азадку, аб'явіўся царом Леанідам і сціпла назваў граду Фермапіламі.

Заняў самазванец глухую абарону і чакае вераломнага Ксеркса. А той лятала не ідзе. Не смаліць на граду і падмога. Дзе твой дух, Спарта? Сакрат, першы прыбочны, стаміўся. Знюхаўся з Валэнсам (сябры-электрыкі) і зараджае акумулятары ў папы рымскага, або ў гнілой велікагародскай рэчцы шукае слядоў бельведэрскай акулы. Старыя зубры, спасеныя на дафермапільскіх пашах, толькі варочаюць асавелымі бельмамі: — Куды нам на тую граду! Захацелася яму крыклівай славы, хай і выстаўляе сябе на смех персам. З намі не раіўся, — ухіляюцца.

Спадзяецца на маладняк і наёмнікаў? Зубраняты затаіліся ў кустах. Мы б ахвотна, але месцайка знайшлі добрае. Чакаюць пампезнага гладыятарства. Наёмнікі за гарамі. Вострась мячы на Лукашэнку.

Ударыў мароз, а персаў няма. Стрымлівае паход Вялікі Брат Сексаголік. Каб табе Монікай адрыгнулася, міратворац, прытворны! Замерзне на праклятай вышыні герой. У імя чаго?

Ні гладыятарства, ні гераізму. І я засмучаны: пачынаць хваласпеў песняй за супакой — кепская прыкмета.

**Сідар Макацёр**

Недапісанае: у 480 г. да н.э. на Фермапільскім горным пераходзе загінуў спартанскі цар і ўвесь яго атрад. Прыклад мужнасці і самаадданасці ў імя радзімы.

**Фрашкі пра нашых**

### Дыпламатычна

Вісела вiся,
Ехала едзя.
Ты агляніся,
Добры суседзе,
Бо віся ўпадзе
Дзе на парадзе,
А ты паедзеш
На матапедзе
Ці то ў Японію,
Ці на Мядзведзі.

### Citius! Altius! Fortius!

Фанатычныя заўзятары
забіваюць голы
штрафнымі.
Спорт не для аматараў.
Не іграюць *голыя*
ў падкідныя.
Сёння спорт
не для здароўя
і маральнасці.
Глотку здзёр,
пабіў мазгоўні.
А працэнт расце.

**Вандал Арлянскі**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. азартная карцёжная гульня, 8. Васіль, беларускі літаратар (нар. у 1911 г.), 9. журба, 10. ядро з электронамі, 11. Яраслаў, чэшскі пісьменнік (1883—1923), 13. жаночае імя, 15. вялікі горад на Бярэзіне, 16. Мануэль, чылійскі пісьменнік (1896—1973), 20. горад у Вінніцкай вобласці, 22. уступная частка музычнага твора, 23. узброеная масавая барацьба, 27. Фергана з 1907 па 1924 гг., 29. сусвет, 30. грузінскі архітэктурны помнік з 7-га стагоддзя, 31. Паўле, сербскі славіст (нар. у 1924 г.), 32. горад на захад ад Амстэрдама, 33. горад на поўначы Партугаліі, 34. Роберт, англійскі архітэктар (1728—92).

**Вертыкальна:** 1. Сальваторэ, італьянскі балетмайстар (1769—1821), 2. Рыгор, беларускі пісьменнік (нар. у 1919 г.), 4. Банкім, індыйскі пісьменнік (1838—94), 5. цвёрды метал плацінавай групы, 6. агародная расліна сямейства лебядовых, 7. вокіс кальцыю, 12. Тадэвуш, палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай і Злучаных Штатаў Амерыкі (1745—1817), 14. мястэчка на поўнач ад Ашмянаў, 16. моцная тканіна палатнянага перапляцення ў дробны рубчык, 17. за рэдзьку не саладзейшы, 18. сумесь памёту і подсцілу, 19. з рагамі і капытамі, але не чорт, 21. снежная бура, 24. крэйсер Кастрычніцкай рэвалюцыі, 25. у „Слове аб палку Ігаравым" на гэтай рэчцы сцелюць снапы галовамі, малоцяць цапамі булатнымі, жыццё на таку кладуць і веюць душу ад цела, 26. Мор, венгерскі пісьменнік (1825—1904), 27. сок хваёвых раслін, 28. выспа на поўдзень ад хонсюскага паўвострава Кіі (Японія).

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 43 нумара**

**Гарызантальна:** кляймо, крылан, разбой, Вага, флаг, Варфаламей, рунь, тара, дзікун, масляк, указка.

**Вертыкальна:** клятва, мора, крой, аншлаг, збіральнік, гавань, флейта, Рувума, Равека, дзяк, унук.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Яўгену Барэлю** з Ваўкавыска.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць два пажылыя мужчыны:
— Дрэнна з памяццю маёй жонкі, — наракае адзін.
— Усё забывае?
— Горш! Усё помніць.

* * *

Да кардыёлага прыходзіць мужчына:
— П'яце? — пытае лекар.
— Ненавіджу гэтага.
— Дзяўчынкі?
— З маім сэрцам... Вы хіба жартуеце.
— А ў карты іграеце?
— Час-часам у таталётка, калі жонка не забярэ ўсёй зарплаты.
— Дык навошта вы хочаце доўга жыць? — здзіўляецца ўрач.

* * *

Лекар намаўляе пацыента каб той кінуў курэнне:
— Скажыце праўду: ці папяросы даюць вам такую вялікую асалоду?
— Вельмі вялікую: калі толькі закуру, адразу цешча выходзіць з пакоя.

* * *

Жонка звоніць з санаторыя дадому:
— Як там наш коцік? — цікавіцца.
— Здох, — адказвае муж.
— Гэта жудасна! Ці не мог ты пра гэта сказаць далікатней, што, напрыклад, сядзеў на даху, а пасля ўпаў і забіўся... Разумееш?
— Разумею.
— А як адчувае сябе мая мама?
— Сядзіць на даху.

* * *

Цешча да зяця:
— Другія зяці дык свае цешчы ўзнасілі б да неба... А ты што?
— Я б таксама ўзнёс, калі б меў упэўненасць, што там астанецеся.

* * *

— Раней, — гаворыць жонка мужу, — ты гаварыў, што з'еў бы мяне цэлую, а цяпер дык нават адзін мой волас у супе табе перашкаджае.

* * *

Муж з жонкаю глядзяць фільм па тэлебачанню.
— Паглядзі, — кажа яна, — як ён яе кахае...
— А ці ты ведаеш, колькі яму за гэта плацяць?

* * *

Гутараць дзве знаёмыя:
— Я з мужам праводзім водпуск разам. А вы?
— Пяць гадоў таму паехалі мы аддзельна.
— І спадабалася вашаму мужу?
— Не ведаю; яшчэ не вярнуўся дадому.

* * *

— Ці верыш у любоў з першага погляду?
— Безумоўна! Бо ці ж выходзіла б за свайго, калі б глянула на яго другі раз?

* * *

— Ваш муж мае новы касцюм...
— Што вы?! Гэта мой новы муж.

* * *

Ноч. Жонка будзіць мужа:
— Чуеш галасы? Гэта ўзломшчыкі.
— Не, каханая, — адказвае муж, — узломшчыкі працуюць вельмі ціха.
Праз гадзіну яна зноў будзіць мужа:
— Зладзеі... Чуеш, якая цішыня дома?